Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

30 КРАСАВІКА 1929 г.
№ 4 (63)

V-ты год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929

# ЗЬМЕСТ.

*Стар.*


1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР пра мерапрыемствы для пашырэньня вырабу будаўнічых матарыялаў . . . . . . . 5

2. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР пра ўстанаўленьне норм кошту аднаго куба—мэтра рабочага жылішчнага, школьнага і больнічнага будаўніцтва для акруг БССР . . . . . . . . . 6

*Дадатак.* Нормы . . . . . . . . . . 7

3. Тлумачэньне Н. К. Працы БССР пра афармленьне звальненьня і выдачы выхадное дапамогі асобам, якія зволены РСІ за відавочную безгаспадарнасьць, бюрократызм і валакіту . . . . . . . . . . 11

4. Пастанова Н. К. Працы БССР пра выплату выхадное дапамогі і пра дачу адпускоў асобам, што паступаюць у навучальныя ўстановы . . . . —

5. Пастанова Н. К. Працы і Н. К. Юстыцыі БССР пра парадак ужываньня арт. 336 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу . . . . . 12 V

6. Пастанова Н. К. Працы БССР пра парадак дачы дадатковых дапамог асобам, што атрымоўваюць пэрсанальныя пэнсіі . . . . . . . 13

7. Пастанова Н. К. Працы БССР пра скасаваньне абежніка свайго за 25 студзеня 1929 г. № 7 „Пра звальненьне за парушэньне правілаў унутранага парадку“. —

8. Пастанова Н. К. Працы БССР пра зьмену пастановы свае за 17 сакавіка 1928 г. № 17 „Пра тэрміны выплаты зарплаты“ . . . . . —

9. Пастанова Н. К. Працы БССР пра скасаваньне пастановы свае за 12 красавіка 1927 г. № 53 „Аб умовах працы на будаўнічых работах“ . . . 14 ✓

10. Пастанова Н. К. Працы БССР пра зьмену арт. 1 пастановы НКП і НКУС БССР за 18 красавіка 1927 г. № 56 „Аб парадку разгляду канфліктаў, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовае працы ў раённых і сельскіх мясцовасьцях“. —

11. Пастанова Н. К. Працы БССР пра нагляд за катламі . . . —

12. Пастанова Н. К. Працы, Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі БССР пра грашовыя сумы, на якія ня можа быць зварочана спагнаньне штрафаў, што накладаюцца ў адміністрацыйным парадку . . . . . . 15

13. Наказ Н. К. Асьветы БССР пра парадак карыстаньня чарговымі адпачынкамі ў культурна-асьветных установах БССР . . . . . . 16

14. Пастанова Н. К. Асьветы БССР пра зацьверджаньне палажэньня „аб Камітэтах Садзейнічаньня пры ўстановах сацыяльнага выхаваньня“ . . . 18

*Дадатак.* Палажэньне . . . . . . . . . . —

15. Абежнік Н. К. Юстыцыі БССР пра змаганьне з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны ў прадпрыемствах і ўстановах . . . . . . . 21

16. Абежнік Н. К. Юстыцыі БССР пра тэрміновае вырашэньне ў судовых органах і ў судовых выканаўцаў спраў, зьвязаных з спагнаньнем запазычанасьці па сыстэме сельска-гаспадарчай капярацыі . . . . . . . 22

17. Інструкцыя Н. К. Унутраных Спраў БССР пра парадак ажыцьцяўленьня пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР . . . . . . . . . 23

18. Абежнік Н. К. Унутраных Спраў і Н. К. Юстыцыі БССР пра наданьне права органам міліцыі і крымінальнага вышуку непрыняцьця для дазнаньняў спраў аб дробных крадзяжох маемасьці з прадпрыемстваў і ўстаноў . . . . 26

19. Загад Начальніка Адміністрацыйнай Управы НКУС—Начальніка Міліцыі і Крымінальнага Вышуку БССР пра абвяшчэньне інструкцыі пра парадак падліку і выдаткаваньня штрафных сум, што спаганяюцца за незаконны выраб, хаваньне і збыт сьпірытусавых напіткаў і аб парадку ўтварэньня хаваньня, выдаткаваньня і падліку спэцыяльных сродкаў на палепшаньне быту міліцыі і адлічэньняў ад штрафных сум . . . . . . . . . . . 27

*Дадатак.* Інструкцыя . . . . . . . . . . 28

20. Абежнік Н. К. Унутраных Спраў БССР пра адказнасьць дворнікаў і рабочых камунальнае гаспадаркі за парушэньне абавязковых пастаноў і пра ачыстку двароў, вуліц і плошчаў ад бруду і сьмецьця . . . . . . 30

*Стар*

21. Санітарныя правілы будаваньня, абсталяваньня і ўтрыманьня сталовых грамадзкага харчаваньня ў БССР . . . . . . . . 31
22. Санітарныя правілы для адчыненьня і ўтрыманьня малочных і сыра-масларобных прадпрыемстваў у БССР . . . . . . . 34
22. Санітарныя правілы аб пахаваньні памёршых . . . . 37
24. Абежнік Н. К. Фінансаў і Н. К. Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР пра ўжываньне пастановы СНК БССР за 1 красавіка 1929 г. (прат. пасядж. СНК БССР № 85 за 1929 г.) „Пра парадак выдачы дапамог непрацаздольным членам сем'яў асоб, прызваных у Чырвоную Армію“. . . . . . . . 38
25. Пастанова Н. К. Гандлю БССР пра ўстанаўленьне гранічных адпускных цэн на абутак выдабу мясцовай нетрэставанай прамысловасьці БССР . . —
26. Абежнік НКПрацы БССР пра падачу ў НК Працы і яго мясцовыя органы справаздачы аб стане броні падлеткаў у вытворчых прадпрыемстваў на 1 мая 1929 г. . . . . . . . . . . 40

## ПАПРАЎКА.

У Бюлетэні СНК БССР № 1 (60) за 1929 г. у пастанове Н. К. Працы БССР „Пра абвяшчэньне ставак заработнай платы для ўстаноў мясцовага бюджэту на 1928-29 бюджэтны год“ трэба зрабіць наступныя папраўкі:

стар. 6. Загадчыкам народных дамоў у сельскіх мясцовасьцях з 1 студзеня 1929 г. не 55 руб., а 50 руб.

стар. 8. Пасьля слоў „Старшыня АВК у Менску, Гомелі і Віцебску“ уставіць прапушчанае: „Старшыні АВК іншых акруг—143 руб. у месяц“.

стар. 10. Тэхнічным сакратаром народных судоў у іншых мясцовасьцях трэба паказаць, замест 50 і 40 руб., 50 і 45 руб.

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

**пра мерапрыемствы для пашырэньня вырабу будаўнічых матарыялаў.**

Для пашырэньня вытворчасьці будаўнічых матарыялаў у 1929 годзе Эканамічная Нарада пры СНК БССР, на падставе пастаноў СНК СССР за 9/III—і 2/IV 1929 году (прат. за №№ 8/295 і 10/297) пастанаўляе:

1. Прыняць да ведама, што ВСНГ БССР прыняты захады да поўнага выпаўненьня пляну будаўніцтва цагляных заводаў, вызначаных плянам на 1928-29 год.

Прапанаваць акруговым выканаўчым камітэтам прыняць рашучыя захады да сваечасовага і поўнага выкананьня праграмы будаўніцтва цагляных заводаў, намечаных плянам на 1928-29 г.

2. Прапанаваць ВСНГ БССР і акруговым выканаўчым камітэтам фарсыраваць будаўніцтва цагляных заводаў з такім разьлікам, каб яшчэ ў 1928-29 годзе магчыма было атрымаць частку прадукцыі.

Адносна колькасьці цэглы, якая павінна быць выпушчана яшчэ ў бягучым будаўнічым сэзоне, даручыць ВСНГ БССР даць адпаведную дырэктыву як па лініі рэспубліканскай, так і мясцовай прамысловасьці.

3. Даручыць ВСНГ БССР неадкладна ўстанавіць у ВСНГ і ў акруговых і раённых выканаўчых камітэтах колькасьць бязьдзейных прадпрыемстваў па вырабу будаўнічых матарыялаў і перадаць іх на працягу месяца бясплатна прамысловым каперацыйным арганізацыям, якія яднае Белсампрамсаюз, з усім іх прамысловым інвэнтаром і абсталяваньнем.

4. Не падлягаюць перадачы прамысловай капярацыі тыя з бязьдзейных прадпрыемстваў, пуск якіх прадугледжваецца вытворчымі праграмамі рэспубліканскай і мясцовай прамысловасьці ў бягучым годзе.

5. Абавязаць Белсампрамсаюз зрабіць тэрміновыя захады да хутчэйшай прыёмкі гэтых прадпрыемстваў, пуску іх у ход і максымальнага скарыстаньня прадукцыі іх для бягучага будаўнічага сэзону.

6. Вызваліць у 1928-29 годзе арцелі, якія яднае Белсампрамсаюз, ад уплаты арэнды за кар'еры і дзялянкі зямлі, дадзеныя ім для здабываньня і вырабу будаўнічых матарыялаў (цэглы, чарапіцы, вапны, пяску, гравія, гліны, камня, крэйды і інш.).

7. Прыняць да ведама, што для фінансаваньня саматужных прамысловых арцеляй выдзяляецца Белсампрамсаюзам 136 тысяч рублёў з уласных сродкаў і што Белсельбанк дае крэдыт у суме 25 тысяч рублёў.

Даручыць ВСНГ БССР абмеркаваць пытаньне адносна магчымасьці фінансаваньня Белсампрамсаюза ў суме 150 тысяч рублёў з сваіх сродкаў і свае прапановы ў тыднёвы тэрмін падаць у Эканамічную Нараду.

8. Даручыць ВСНГ праверыць вытворчы плян Белсампрамсаюза па цаглянай вытворчасьці на бягучы год і ўзмацніць нагляд за выкананьнем яго.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

15 красавіка 1929 г.
г. Менск.

## 2. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### пра ўстанаўленьне норм кошту рабочага жылішчнага, школьнага і больнічнага будаўніцтва для акруг БССР.

Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. У асноўным зацьвердзіць на 1928-29 г. распрацаваныя Камітэтам па будаўніцтву нормы кошту кубамэтра рабочага жылішчнага, школьнага і больнічнага будаўніцтва і правілы іх ужываньня, даручыўшы яму канчаткова іх адрэдагаваць і, удакладніўшы, надрукаваць для кіраваньня будаўнічымі арганізацыямі, прыняўшы пад увагу дырэктывы аб зьніжэньні будаўнічага індэксу і ітогаў кошту мінулага году.

2. Запрапанаваць усім будуючым арганізацыям і будаўнічым канторам, дзяржаўным, каперацыйным і акцыйным таварыствам з пераважным удзелам дзяржаўнага і каперацыйнага капіталу прыняць патрэбныя захады, каб фактычны кошт паказанага ў арт. 1 гэтае пастановы будаўніцтва 1928-29 г. не перавышаў устаноўленых гэтаю пастановаю нормаў.

3. Памянутыя ў арт. 1 нормы кошту зьяўляюцца гранічнымі для кожнай акругі. Падвышэньне кошту будаўніцтва звыш устаноўленага па нормах можа быць дазволена цэнтральнымі арганізацыямі праводзячым будаўніцтва арганізацыям толькі ў выключных выпадках, якія не залежаць адзабудоўшчыкаў (напрыклад: умовы грунту, замена дэфіцытных галоўнейшых будаўнічых матарыялаў больш дарагімі, дальнасьць гужавой перавозкі матарыялаў ад водных ці чыгуначных шляхоў), па заключэньнях адпаведных кіраўніцтваў будаўнічага кантролю аб неабходнасьці такога падвышэньня.

У тых-жа выключных выпадках могуць быць павялічаны Камунальным Банкам разьмеры крэдытаваньня будаўніцтва па заключэньнях належных кіраўніцтваў будаўнічага кантролю.

4. У паасобных выпадках, пры наяўнасьці асабліва льготных умоў для данага будаўніцтва, не прадугледжаных законам (напрыклад, атрыманьне на льготных умовах, звыш прадугледжаных законам, матарыялаў, рабочай сілы, перавозных сродкаў і інш.), устаноўленыя гэтаю пастановаю нормы кошту, а таксама разьмеры крэдытаваньня павінны быць, па заключэньнях мясцовых кіраўніцтваў будаўнічага кантролю, адпаведна зьніжаны.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Сакратар Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *В. Крывіцкі.*

2 красавіка 1929 г.
г. Менск.

*Дадатак.*

## Нормы кошту аднаго кубамэтра рабочага жылішчнага, школьнага і больнічнага будаўніцтва і правілы іх ужываньня ў 1928-29 г.

1. На 1928-29 г. для рабочага жылішчнага, школьнага і больнічнага будаўніцтва ўстанаўляюцца:

а) для асноўных цагляных будынкаў, крытых жалезам, на каменным падмурку, з драўлянымі паміжпаверхавымі перакрыцьцямі, з вадаправодам і каналізацыяй (дваравой), з пячным ацяпленьнем (кахляныя печы), з унутранай і знадворнай атынкоўкай, з унутранай электраправодкай;

б) для будынкаў драўляных (рубленых) з 22 см. круглага лесу, крытых жалезам, на каменным падмурку з пячным ацяпленьнем, без вадаправоду і каналізацыі (дваровай), без унутранага і знадворнага атынкаваньня сьцен, а таксама і без знадворнай абшыўкі і афарбоўкі, ніжэйнаступныя нормы (ліміты) кошту кубамэтра будынкаў:

| НАЗВА АКРУГ | Каменныя | | Драўляныя | | УВАГА. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | К. | Руб. | К. | |
| Менская | 21 | 40 | 15 | 50 | Ліміты гэтыя ўстанаўляюцца для арганізацый, якія карыстаюцца льготамі па рабочаму жылішчнаму будаўніцтву. |
| Віцебская | 21 | 40 | 14 | — | |
| Гомельская | 21 | 40 | 14 | — | |
| Магілеўская | 21 | 40 | 14 | — | |
| Бабруйская | 20 | — | 14 | — | |
| Аршанская | 20 | — | 14 | — | |
| Мазырская | 20 | — | 14 | — | |
| Полацкая | 20 | — | 14 | — | |

*Увага 1.* Для акруг Бабруйскай, Аршанскай, Мазырскай і Полацкай у ліміты для каменных пабудоў не ўваходзіць кошт работ па пабудове вадаправоду і каналізацыі.

*Увага 2.* У памянёныя вышэй ліміты ўваходзіць кошт неабходнага знадворнага ўпарадкаваньня (пляніроўка плошчы вучастку, якая не перавышае 4-х разовай плошчы забудоўкі, упарадкаваньне пешаходных сьцежак на вучастку, агароджа па праезду, вароты, форткі).

*Увага 3.* У вышэйпамянёныя ліміты ня ўключан разьмер вытворчага рыску і прыбылі пры правядзеньні работ падрадным спосабам.

2. Для школьнага будаўніцтва паказаныя ў п. 1 ліміты прымаюцца з зьніжэньнем на 10% супроць жылішчнага будаўніцтва.

3. Для больнічнага будаўніцтва паказаныя ў п. 1 ліміты прымаюцца з надбаўкай да 20% супроць жылішчнага будаўніцтва.

4. У выпадку, калі ў каменных будынках некаторыя з паказаных вышэй відаў санітарна-тэхнічнага абсталяваньня адсутнічаюць, то нормы зьніжаюцца ў наступных разьмерах:

пры адсутнасьці вадаправоду—на 3,25%,
пры адсутнасьці каналізацыі—на 3,25%.

5. Пры пабудове ў каменных шматпаверхавых блочных будынках цэнтральнага ацяпленьня замест пячнога з выцяжной вэнтыляцыяй, нормы падвышаюцца на 8%.

6. Пры наяўнасьці ў драўляных будынках вадаправоду і каналізацыі (дваровай) нормы ацэнак падвышаюцца:

| | Для 2-га паверху | Для 1-га паверху |
|---|---|---|
| пры пабудове вадаправоду . . . | на 3,5% | на 4,5% |
| „ „ каналізацыі . . . | на 3,5% | на 4,5% |

7. Пры ўстаноўцы ў кожнай кватэры ванны ацэнка падвышаецца на 5%, пры меншай колькасьці ванных ацэнка адпаведна зьніжаецца.

8. Пры пабудове знадворнага далучэньня вадаправоду і каналізацыі нормы падвышаюцца, у залежнасьці ад мясцовых умоў, але ня звыш як на ½%.

*Увага.* У выпадку неабходнасьці падоўжаньня вулічнай магістралі, калі такая не даходзіць да вучастку, кошт работ па яе падоўжаньню падвышае ліміты ў залежнасьці ад мясцовых умоў.

9. Для будынкаў мяшаных канструкцый (часткова каменных, часткова драўляных) ліміты вызначаюцца асобна для каменных часьцей і асобна для драўляных, паводле ўстаноўленых для кожнага роду будаўніцтва норм.

10. Ліміты для пабудоў іншых відаў палегчанай канструкцыі, з ужываньнем новых будаўнічых матарыялаў, устанаўляюцца з падлікам фактычнага зьніжэньня кошту іх параўнальна з асноўнымі канструкцыямі па заключэньню мясцовых кіраўніцтваў будаўнічага кантролю, з падачаю каштарысных вылічэньняў.

11. Кошт першагадовага рамонту, патрэба якога зьявілася прычынай ужываньня сырога лесу, а таксама кошт асадачнага рамонту, уключаючы атынкоўку і абшыўку, у паказаныя ліміты ня ўключаны. Ацэнка кошту гэтых работ ўстанаўляецца па даных належачых кіраўніцтваў будаўнічага кантролю дадаткова да норм кошту, але ў разьмеры ня звыш 1% для каменных будынкаў і 1½% для драўляных.

12. Пры пабудове звычайных асобных знадворных будынкаў—пакватэрных прыбудоў (пуняў, склепаў, памыйных ям і ўборн ых) ліміты павялічваюцца наступным чынам:

а) для драўляных жылых дамоў пасялковага тыпу на пакватэрныя прыбудовы дабаўляецца да 7% кошту данага дому;

б) для каменных гарадзкіх і такіх-жа пасялковых (двухпаверхавых і вышэй)—на пакватэрныя прыбудовы дабаўляецца 3%;

в) для асобнага індывідуальнага ці дробна-групавога жылішчнага будаўніцтва пры аднапаверхавых драўляных і каменных жылых дамох на пакватэрныя прыбудовы дабаўляецца да 8%;

г) пры пабудове ў сутарэньнях асобных аддзяленьняў для дроў—на пакватэрныя прыбудовы дабаўляецца 1%.

Пры гэтым трэба падаваць у кожным асобным выпадку праекты рысункаў і тлумачэньняў з довадамі патрэбы такіх прыбудоў.

13. Ліміты для сутарэньняў у шматпаверхавых дамох, абсталяваных катламі цэнтральнага ацяпленьня і драўлянымі пунямі (пры наліччы дравяных кухонных ачагоў), устанаўляюцца ў разьмеры 40% ацэнкі куб. мэтра асноўнай пабудовы, пры чым пабудова памяшканьняў для дроў і інш. у сутарэньні дазваляецца на плошчы, выходзячы з разьліку плошчы апошніх, напрыклад, па 7—9 кв. мэтр. на кожную кватэру.

14. Калі ў паўсутарэньнях будуюцца жылыя памяшканьні, а ў сутарэньнях—клюбы, сталоўкі, ванныя, пральні, абсталяваньне цэнтраль-

нага ацяпленьня з поўнай унутранай абробкай па тыпу верхніх паверхаў жылога дому (з дазволу Будаўнічага Кантролю), то ліміты для іх устанаўляюцца па норме ўсяго жылога дому бяз зьніжэньня, за выключэньнем толькі кацельнай, якая ацэньваецца паводле арт. 13.

15. Кубатура будынку вызначаецца памнажэньнем плошчы будынку па знадворнаму абводу 1-га паверху (вышэй цокаля) на вышыню будынку, лічачы вышыню ад сярэдняй адзнакі сплянiраванай паверхні зямлі (ці ходніка), якая прылягае да пэрымэтру будынка, да падлогі паддахавага памяшканьня, пры адсутнасьці сутарэньня і пры вышыні цокаля, не перавышаючай 0,7 мэтра.

*Увага 1.* Пры наліччы сутарэньня ці паўсутарэньня вышыня іх вымяраецца ад падлогі да сярэдняй адзнакі сплянiраванай паверхні зямлі (ходніка), а вышыня самага будынку лічыцца ад тэй-жа сярэдняй адзнакі сплянiраванай паверхні зямлі (ходніка) да падлогі паддахавага памяшканьня.

*Увага 2.* Ліміты для мансарднага паверху ўстанаўляюцца як для драўляных будынкаў і аб'ём яго вызначаецца памнажэньнем плошчы на знадворнаму аб'ёму сьцяны яго на сярэднюю вышыню ад падлогі да верхняй плошчы перакрыцьця.

*Увага 3.* Кубатура цёплых часьцей будынку, якія выступаюць далей першага паверху, уключаецца ў агульны аб'ём будынку.

*Увага 4.* У драўляным будаўніцтве знадворныя лесьвічныя клеткі і іншыя халодныя будынкі з абшыўнымі сьценамі ў кубатуру будынка ня ўключаюцца.

16. Ровень падлогі 1-га паверху, пры адсутнасьці паўсутарэньня ці сутарэньня павінен быць ня менш 71 см. ад сярэдняй адзнакі паверхні зямлі, якая прылягае да пэрымэтру будынку, але ня ніжэй 30 см. ад вышэйшай адзнакі. Калі патрэбна, у зьвязку з вялікімі спадамі, пабудаваць цокаль вышэй 70 см. ад сярэдняй адзнакі, нормы захоўваюць сілу пры ўмове вызначэньня кубатуры будынкаў з разьліку умоўнай вышыні цокаля ў 70 см.

17. Пры вызначэньні лімітаў аднаго кубамэтра жылой пабудовы прыняты пад увагу наступныя ўмовы:

а) вышыня жылога памяшканьня ад падлогі да столі прынята ў 3 мэтры;

б) таўшчыня перакрыцьцяў—0,35 мэтра;

в) вышыня цокаля—0,70 мэтра (гранічная).

*Увага.* Для больнічнага і школьнага будаўніцтва, пры павялічэньні вышыні памяшканьня, ліміты павялічваюцца на 1,5% на кожныя 10 см. дадатковай вышыні.

18. Для забясьпечаньня, у мэтах эканамічнасьці і рацыянальнасьці пляніроўкі, пэўнай плошчы кватэры на адзінку аб'ёму ўсяе пабудовы пры праэктаваньні дазваляюцца ніжэйпаказаныя максымальныя суадносіны аб'ёму пабудовы да карыснай плошчы, суадносіны жылой плошчы да карыснай і суадносіны кубатуры да жылой плошчы:

а) Аб'ёмныя каэфіцыэнты (суадносіны кубатуры да карыснай плошчы):

| Карысн. плошча кват. | Да 40,0 кв. мэтр. | Да 50,0 кв. мэтр. | Да 60,0 кв. мэтр. | Да 70,0 кв. мэтр. | Ад 70,0 кв. мэтр. і звыш. |
|---|---|---|---|---|---|
| Для шматпаверх. блочнага каменнага дому . . . . . . . | 4,85 | 4,80 | 4,75 | 4,70 | 4,65 |
| Для двухпаверх. блочнага драўлянага дому . . . . . . . | 4,55 | 4,50 | 4,45 | 4,40 | 4,35 |
| Для аднапаверх. драўлянага дому . | 4,15 | 4,10 | 4,05 | 4,00 | — |

*Увага 1.* Для каменнага блочнага дому з лікам кватэр у паверху менш 8-мі, аб'ёмныя каэфіцыэнты па ўсіх адпаведных графах табліцы павялічваюцца супроць паказаных:

пры 6 кватэрах у паверху—на 1%
„ 4 „ „ „ —„ 2%
„ 2 „ „ „ —„ 4%

*Увага 2.* У драўляным блоку з 2-мя кватэрамі ў паверху аб'ёмныя каэфіцыэнты супроць паказаных павялічваюцца ва ўсіх адпаведных графах табліцы на 1%.

*Увага 3.* Аб'ёмныя каэфіцыэнты, паказаныя ў гэтым артыкуле, абумоўлены таўшчынёй знадворных цагляных сьцен у 0,64 мэтры; у выпадку ужываньня новых і палегчаных канструкцый з больш тонкімі знадворнымі сьценамі аб'ёмныя каэфіцыэнты адпаведна зьніжаюцца.

*Увага 4.* Пры наяўнасьці ў доме больш 2-х кватэр на адну лесьвіцу аб'ёмныя каэфіцыэнты, якія ўстанаўляюцца гэтым артыкулам, зьніжаюцца:

пры 3-х кватэрах на адну лесьвіцу—на 2%
„ 4-х „ „ „ „ —„ 2½ %

*Увага 5.* Для аднапаверхавых дамоў палегчаных канструкцый, пры таўшчыні знадворных сьцен да 0,40 мэтр., ужываць нормы, паказаныя для аднапаверхавых драўляных блокаў, з падвышэньнем іх да 5%.

б) Суадносіны жылой плошчы да карыснай:

| Карысная плошча кватэры | Да 40,0 кв. мэтр. | Да 50,0 кв. мэтр. | Да 60,0 кв. мэтр. | Да 70,0 кв. мэтр. | Ад 70,0 кв. мэтр. і звыш. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Суадносіны жылой плошчы да карыснай ад...... да...... | | | | |
| Для шматпаверх. блочн. дому з цэнтральным ацяпленьнем . . | 0,70—0,80 | 0,65—0,70 | 0,70—0,75 | 0,70—0,75 | 0,75—0,80 |
| Таксама з пячным ацяпленьнем, а таксама для драўлянага аднапаверхавага дому . . . . | 0,65—0,70 | 0,65—0,70 | 0,70—0,75 | 0,70—0,75 | — |

*Увага 1.* У выпадку адсутнасьці ў кватэры ваннага пакою нормы, пачынаючы з 3-й графы, зьніжаюцца на 4%.

*Увага 2.* У тэрмін „жылая плошча“ ўваходзіць сума плошчаў жылых пакояў, за вылікам плошчы пячэй і карэнных комінаў.

*Увага 3.* У тэрмін „дапаможная плошча“ ўваходзіць плошча кухні, перадпакояў, карыдораў, уборнай, ваннай і кладовых, за вылікам плошчы пячэй і карэнных комінаў.

*Увага 4.* У тэрмін „карысная плошча“ ўваходзіць сума жылой і дапаможнай плошчаў. У карысную плошчу ня ўключаюцца ўнутраныя сьцены і перагародкі, а таксама лесьвіцы, пераходы з вуліцы да лесьвіц у першым паверху шматпавярховых дамоў і халодныя сені ў аднапаверхавых дамох.

в) Суадносіны кубатуры да жылой плошчы:

| Карысная плошча кватэры | Да 40,0 кв. мэтр. | Да 50,0 кв. мэтр. | Да 60,0 кв. мэтр. | Да 70,0 кв. мэтр. | Ад 70,0 кв. мэтр. і звыш. |
|---|---|---|---|---|---|
| Абёмныя каэфіцыэнты ад.........да......... | | | | | |
| Для шматпаверх. блочнага каменнага дому . . . . . . . | 6,90—6,40 | 7,40—6,85 | 6,80—6,30 | 6,75—6,30 | 6,20—5,80 |
| Для двухпаверх. блочнага драўлянага дому . . . . . . . | 7,00—6,50 | 6,95—6,40 | 6,30—5,90 | 6,30—5,80 | — |
| Для аднапаверхавага драўлян. дому . | 6,40—5,95 | 6,30—5,85 | 5,80—5,40 | 5,70—5,30 | — |

*Увага*. Для паказаных вышэй аб'ёмных табліц „а“ і „б“ вылічэньне аб'ёму будынкаў робіцца памнажэньнем плошчы будынку па знадворнаму абмеру на вышыню кожнага паверху з уключэньнем шматпаверхавага перакрыцьця (ад чыстай падлогі ніжэйшага паверху да чыстай падлогі наступнага паверху) ці на агульную вышыню ўсіх паверхаў (ад падлогі ніжэйшага паверху да падлогі паддахавага памяшканьня).

Старшыня Прэзыдыуму Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гэйнэ.*

Члены Прэзыдыуму Камітэту: *О. Краўзэ.* *Кавалёў.*

2 красавіка 1929 г.
г. Менск.

## 3. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра афармленьне звальненьня і выдачы выхадное дапамогі асобам, якія зволены РСІ за відавочную безгаспадарнасьць, бюракратызм і валакіту.**

Народны Камісарыят Працы БССР тлумачыць:

1. Асобы, якія зволены РСІ за відавочную безгаспадарнасьць, бюракратызм і валакіту ў парадку пастановы ЦВК і СНК БССР за 14 ліпеня 1927 г. „Пра пашырэньне праў РСІ“ (З. З. БССР 1927 г. № 32, арт. 161), ня маюць права на атрыманьне выхадное дапамогі.

2. Звальненьне робіцца ў такіх выпадках адміністрацыяй прадпрыемства альбо ўстановы на падставе адпаведнае пастановы РСІ.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар НК Працы БССР *А. Круглік.*

24 студзеня 1929 г.
№ 3.

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра выплату выхадное дапамогі і пра дачу адпускоў асобам, што паступаюць у навучальныя ўстановы.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Рабочыя і служачыя, якія пасылаюцца партыйнымі, прафэсіянальнымі і савецкімі органамі ў навучальныя ўстановы, калі трэба пакі-

нуць месца працы пры паступленьні ў навучальную ўстанову, атрымоўваюць пры скасаваньні працоўнага дагавору выхадную дапамогу ў разьмеры двухтыднёвага заработку, калі яны працавалі ў гэтым прадпрыемстве альбо ўстанове ня менш двух месяцаў.

II. Усе рабочыя і служачыя, дапушчаныя мандатнаю камісіяю да приймовых іспытаў у Камуністычны Унівэрсытэт БССР імя У. І. Леніна, атрымоўваюць двухмесячны водпуск для падрыхтоўкі з захаваньнем сярэдняга заробку па сваёй пасадзе, незалежна ад таго, які час яны працавалі ў гэтым прадпрыемстве альбо ўстанове. Чарговы і дадатковы водпуск (арт. арт. 114 і 115 Кодэксу Законаў аб Працы) даецца гэтым асобам незалежна ад паказанага ў гэтым арт. водпуску.

III. З паказанымі ў арт. II асобамі працоўны дагавор касуецца, калі яны прыняты ў Камуністычны Унівэрсытэт, з выплатаю ім выхадное дапамогі паводле арт. I гэтае пастановы.

IV. З часу выданьня гэтае пастановы касуецца пастанова НКПрацы БССР за 2 кастрычніка 1925 г. „Аб выплаце выхадное дапамогі асобам, што паступаюць у навучальныя ўстановы“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г., № 6).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР *А. Круглік.*

5 лютага 1929 г.
№ 9.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра парадак ужываньня арт. 336 ГПК.

Прымаючы пад увагу, што на падставе арт. 436 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР (З. З. БССР 1929 г., № 4, пастан. 20) паказаныя ў пунктах „а“ і „б“ гэтага артыкулу абмежаваньні не пашыраюцца на ўзнагароды, устаноўленыя спэцыяльнымі законамі, народныя камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць растлумачыць, што спэцыяльнымі законамі, на якія паказвае арт. 336 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, зьяўляюцца наступныя:

1) пастанова ЦВК і СНК Саюзу ССР за 7 сакавіка 1927 г. „Пра парадак выдачы заахвочваючае ўзнагароды асобам кіраўнічага пэрсаналу дзяржаўных прадпрыемстваў і акцыйных таварыстваў (паявых таварыстваў) з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу“ (З.З. СССР 1927 г. № 16, арт. 167) і

2) пастанова СНК Саюзу ССР за 4 чэрвеня 1927 г. „Аб заахвочваючай узнагародзе гандлёвых служачых дзяржаўных і каперацыйных прадпрыемстваў, а таксама акцыйных таварыстваў (паявых таварыстваў) з пераважным удзелам дзяржаўнага і каперацыйнага капіталу“ (З. З. СССР 1927 г. № 34, арт. 357).

Народны Камісар Працы БССР *К. Бэнэк.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР і
Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

29 сакавіка 1929 г.
№ 19.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра парадак дачы дадатковых дапамог асобам, што атрымоўваюць пэрсанальныя пэнсіі.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Асобы, што атрымоўваюць пэрсанальныя пэнсіі ў парадку артыкулаў 28—34 „Палажэньня аб дзяржаўным забесьпячэньні непрацаздольных членаў сямей вайскоўцаў, інвалідаў вайны і некаторых іншых катэгорый асоб, няздольных да працы“ (З. З. БССР 1925 г. № 45, арт. 352) і маюць права на пэнсію ў парадку сацыяльнага страхаваньня, карыстаюцца правам на атрыманьне ад страхавых органаў усіх дадатковых дапамог, паводле арт. 1 правілаў Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР за 13 студзеня 1927 г. № 8 („Изв. НКТ“ 1927 г., № 5), на агульных падставах з асобамі, на якіх пашыраецца поўнае страхаваньне.

2. Для атрыманьня дадатковых дапамог асобы, што атрымоўваюць пэрсанальную пэнсію, павінны падаць пэнсійную кніжку, выдадзеную НК Сац. Забясьпечаньня з адзнакай аб тым, што гэтая асоба мае права на пэнсію ў парадку сацыяльнага страхаваньня.

Намесьнік Народнага Камісара Працы БССР—
Начальнік Галоўнае Управы Сацыяльнага
Страхаваньня БССР *Я. Мяркулаў.*
Сакратар НК Працы БССР *Ф. Нікanoраў.*

6 красавіка 1929 г.
№ 20.

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра скасаваньне абежнікаў свайго за 25 студзеня 1929 г. № 7 „Пра звальненьне за парушэньне правілаў унутранага парадку“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

З прычыны выданьня СНК СССР пастановы за 6 сакавіка 1929 г. „Пра меры да ўзмацненьня працоўнае дысцыпліны“ („Изв. ЦИК СССР і ВЦИК“ за 7 сакавіка 1929 г.) скасаваць свой абежнік за 25 студзеня 1929 г. № 7 „Пра звальненьне за парушэньне правілаў унутранага парадку“ (Бюл. СНК 1929 г. № 2).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*
Сакратар НК Працы БССР *Ф. Нікaнораў.*

6 красавіка 1929 г.
№ 21.

Узгоднена з Н. К. Фінансаў БССР—адносьнік за 2|IV 1929 г. № 2104—1.

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену пастановы свае за 17 сакавіка 1928 г. „Пра тэрміны выплаты зарплаты“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе запісаць п. „а“ арт. 2 пастановы свае за 17 сакавіка 1928 г. № 17 „Пра тэрміны выплаты зарплаты“ (Бюл. СНК 1928 г. № 3) у наступнай рэдакцыі:

„а) ва ўсіх функцыянальных установах народнае асьветы, работнікам міліцыі і крымвышуку ў гарадох—1 і 16 кожнага месяца“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*
Сакратар НК Працы БССР *Ф. Нікaнораў.*

6 красавіка 1929 г.
№ 22.

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра скасаваньне пастановы свае за 12 красавіка 1927 г. № 53 „Аб умовах працы на будаўнічых работах“.**

У сувязі з выданьнем інструкцыі НКП СССР за 30 сакавіка 1929 г. „Пра парадак ужываньня пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 красавіка 1928 г. „Аб умовах працы на будаўнічых работах“ (газэта „Труд“ за 4 красавіка 1929 г.) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе скасаваць пастанову сваю за 12 красавіка 1927 г. № 53 „Аб умовах працы на будаўнічых работах“ (Бюл. СНК 1927 г. № 8).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*
Ст. Праўн. Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

15 красавіка 1929 г.
№ 23.

---

Узгоднена з НК Унутраных Спраў БССР—адносьнік за 8|IV 1929 г. № 1510.

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра зьмену артыкулу 1 пастановы НКП і НКУС БССР за 18 красавіка 1927 г. № 56 „Аб парадку разгляду канфліктаў, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовае працы ў раённых і сельскіх мясцовасьцях“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе запісаць арт. 1 пастановы Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР за 18 красавіка 1927 г. „Аб парадку разгляду канфліктаў, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні наймовае працы ў раённых і сельскіх мясцовасьцях“ (Бюл. СНК 1927 г. № 12) так:

„Канфлікты, якія ўзьнікаюць у прадпрыемствах, установах і гаспадарках, дзе працуе ня менш пяці рабочых і служачых, вырашаюцца ў агульным парадку, устаноўленым „Правіламі пра міравы, пасрэдніцкі і судовы разгляд працоўных спрэчак“ (З. З. СССР, 1928 г. № 56, арт. 495).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*
Сакратар НК Працы БССР *Ф. Ніканораў.*

15 красавіка 1929 г.
№ 24.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра нагляд за катламі.**

Каб скарыстаць для нагляду за катламі перапынак у працы катлоў для рамонту альбо прамыўкі і для адхіленьня паўторнага перапынку іх працы, ад чаго прадпрыемствы і ўстановы маюць шкоду, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Усе прадпрыемствы і ўстановы, што прыпыняюць работу катлоў для прамыўкі альбо рамонту, павінны за 10 дзён да перапынку паведаміць аб гэтым адпаведную акруговую камэру інспэкцыі працы, далучаючы весткі па наступнай форме:

1) назва і адрас прадпрыемства;
2) сыстэма і тып катла, праца якога прыпыняецца;
3) для чаго прыпыняецца праца катла (для прамыўкі, рамонту і інш.);

2. Калі праца катла прыпыняецца для прамыўкі яго, то трэба паказаць:

а) калі мяркуецца пачаць прамыўку (месяц і дзень);

б) калі мяркуецца скончыць прамыўку.

3. Калі кацёл трубчаты альбо лакамабіль, тыпу паравозу, то паказаць: ці будуць вымацца дымагарныя трубы ці не, калі будуць вымацца, то ці ўсе часьці.

4. Калі праца катла прыпыняецца для рамонту, то паказаць:

1) які мяркуецца зрабіць рамонт: налажэньне латак, зьмена дымагарных труб і інш.;

2) калі пачнецца рамонт (месяц і дзень) і працяжнасьць яго.

5. Асобы, што нарушаюць гэтую пастанову, прыцягваюцца да адказнасьці ў парадку адміністрацыйным альбо крымінальным, паводле арт. 139 і 200 Крымінальнага Кодэксу БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Сакратар НКПрацы БССР *Ф. Нікanораў.*

17 красавіка 1929 г.
№ 25.

---

## 12. Пастанова народных камісарыятаў Працы, Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР

### пра грашовыя сумы, на якія ня можа быць зьвернута спагнаньне штрафаў, што накладаюцца ў адміністрацыйным парадку.

У адпаведнасьці з арт. 23 пастановы „Пра парадак накладаньня адміністрацыйных пакараньняў“ (З. З. БССР 1928 г. № 17, арт. 160) і арт. 6 пастановы ЦВК і СНК СССР за 2 студзеня 1929 г. „Пра мерапрыемствы па змаганьні з нарушэньнем законадаўства аб працы“ (З. З. СССР 1929 г. № 4, арт. 31) народныя камісарыяты Працы, Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Пры прымусовым спагнаньні штрафаў, што накладаюцца ў адміністрацыйным парадку, апроч штрафаў за нарушэньні законадаўства аб працы (п. 2), не дазваляецца браць штрафы з наступных сум:

а) з належачай рабочым і служачым заработнай платы;

б) з сум, якія выплачваюцца ў парадку сацыяльнага страхаваньня і забясьпечаньня;

в) з сум, якія выдаюцца сялянскімі камітэтамі ўзаемадапамогі ў якасьці дапамог і пазычак;

г) з сум, якія выдаюцца пры камандыроўках паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 14 студзеня 1927 г. „Пра службовыя камандыроўкі ў межах СССР“ (З. З. СССР 1927 г. № 4, арт. 42);

д) з сум, якія выдаюцца пры перамяшчэньнях паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 9 лістапада 1927 г. „Пра кампэнсацыі пры пераводах і пры найманьні на работу ў іншыя мясцовасьці“ (З. З. СССР 1927 г. № 55, арт. 660);

е) з выхадной дапамогі, якая выплачваецца пры звальненьні;

ж) з сум, якія выплачваюцца як кампэнсацыя за нескарыстаны водпуск;

з) з сум, што выплачваюцца за амартызацыю начыньня, якое належыць рабочым (арт. 85 Код. Зак. аб Працы), за спэцыяльную вопратку і тлушчы (арт. 86, 141 і 142 Код. Зак. аб Працы).

2. Пры прымусовым спагнаньні штрафаў, што накладаюцца ў адміністрацыйным парадку за парушэньні законадаўства аб працы, не дазваляецца браць штрафы толькі з тых сум, якія пералічаны ў п. 1 гэтай пастановы пад літарамі г, д, е і ж.

3. З выданьнем гэтай пастановы касуецца пастанова народных камісарыятаў Працы, Унутраных спраў і Юстыцыі БССР за 31 студзеня 1925 г. „Пра недапушчэньне спагнаньня штрафаў, што накладаюцца ў адміністрацыйным парадку за невыкананьне выдаваемых ва ўстаноўленым парадку абавязковых пастаноў, з некаторых сум, што выдаюцца працоўным“ (З. З. БССР 1925 г. № 17, арт. 145).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*
Народны Камісар Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*
Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

17 красавіка 1929 г.
№ 26.

---

## 13. Наказ Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра парадак карыстаньня чарговымі адпачынкамі ў культурна-асьветных установах БССР.

1. Адпачынкі даюцца на працягу ўсяго году ўсім працаўнікам, акрамя інструктароў, выхавальнікаў і пэдагагічнага пэрсаналу, якім адпачынак павінен быць дадзены ў час летніх канікул.

2. Інспэктары акруговых інспэктарыятаў народнае асьветы, гарадзкія і раённыя інспэктары народнае асьветы карыстаюцца месячным адпачынкам.

Працаўнікі з ненармаваным рабочым днём апарату НК Асьветы і вышэйшых навучальных устаноў карыстаюцца трохтыднёвым адпачынкам, усе іншыя працаўнікі, за выключэньнем тэхнічных працаўнікоў фізычнае працы вышэйшых навучальных устаноў, карыстаюцца 2-х тыднёвым адпачынкам.

3. У наступных навучальных установах пэдагагічны і выхавальніцкі склад мае права на адпачынак тэрмінам на 2 месяцы, тэхнічны склад (у вышэйшых навучальных установах толькі тэхнічныя працаўнікі фізычнай працы)—на адзін месяц: у чатырохгадовых (першая ступень) працоўных школах, сямёхгодках, школах другой ступені, Цэнтральнай Дасьледчай Школе, паказальных школах пры пэдагагічных тэхнікумах і БДУ, агульнаадукацыйных курсах, спэцыяльных клясах пры 7-годках, школах сялянскай моладзі, дзіцячых дамох, калёніях і гарадкох, у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, Беларускай Дзяржаўнай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі імя Кастрычнікавай Рэвалюцыі, Камуністычным Унівэрсытэце імя Леніна, Беларускім Дзяржаўным Вэтэрынарным Інстытуце, рабфаках, Менскім Вячэрнім Рабочым Унівэрсытэце, палітэхнікумах, тэхнікумах, 2-гадовых настаўніцкіх курсах, прафшколах, школах фабзавучу і навучальна-практыкавальных майстэрнях, у савецкіх партыйных школах і вячэрніх школах усіх тыпаў.

4. Загадчыкі пералічаных у 3-м пункце ўстаноў, за выключэньнем загадчыкаў-настаўнікаў аднакамплектавых школ і загадчыкаў двох-трох - і чатырох-камплектавых школ, карыстаюцца двумя месяцамі адпачынку, як і пэдагагічны склад, толькі ў тым выпадку, калі гэтаму не перашкаджае адміністрацыйна-гаспадарчая праца па ўстанове (грунтоўны рамонт, рэарганізацыя ўстановы і інш. прычыны); у апошніх выпадках адміністрацыйны склад мае права на адзін месяц адпачынку.

*Увага* 1. Пытаньні аб тым, якім тэрмінам адпачынку могуць карыстацца загадчыкі ўстаноў у адпаведнасьці з гэтым пунктам, вырашаюцца Народным Камісарыятам Асьветы БССР, акруговымі інспэктарамі народнае асьветы або раённымі інспэктарамі народнае асьветы па прыналежнасьці пасьля ўзгадненьня з адпаведным прафэсіянальным саюзам.

5. У дзіцячых садох і ачагох выхавальнікі і загадчыкі ўстановы маюць адпачынак на паўтара месяцы, а іншыя працаўнікі—на адзін месяц.

6. Ва ўстановах для дэфэктыўных дзяцей (Інстытут Сацыяльнага Перавыхаваньня, Глуханямых, Разумова-адсталых, Школа Сьляпых і прыёмнікі-разьмеркавальнікі) загадчыкі ўстаноў, настаўнікі, выхавальнікі і важатыя піанэр-атрадаў карыстаюцца двухмесячным адпачынкам, а іншыя працаўнікі—месячным.

7. Члены сэкцыі навуковых працаўнікоў, якія працуюць у Беларускім Дзяржаўным Музэі і яго аддзяленьнях, маюць права на двухмесячны адпачынак.

Іншыя працаўнікі Беларускага Дзяржаўнага Музэю і яго аддзяленьняў, за выключэньнем тэхнічных, маюць права на месячны адпачынак, а тэхнічныя працаўнікі на адпачынак у 20 дзён.

Тэхнічны склад і тыя працаўнікі, якія маюць права на адпачынак на 1 месяц, скарыстоўваюць яго з 1-га па 31-е ліпеня, на які тэрмін Музэй і яго аддзяленьні зачыняюцца.

Дазорца Музэю і адзін працаўнік у яго аддзяленьнях атрымліваюць адпачынак раней ці пазьней паказанага ў папярэднім пункце тэрміну, каб у час агульнага адпачынку мець бязупынны нагляд за музэйнымі каштоўнасьцямі.

8. Члены сэкцыі навуковых працаўнікоў, якія працуюць у Беларускай Дзяржаўнай Бібліатэцы, маюць права на 2-х месячны адпачынак.

Іншыя працаўнікі Беларускае Дзяржаўнае Бібліатэкі, а таксама агульна-даступных бібліатэк, хат-чытальняў, клюбаў і народных дамоў, за выключэньнем тэхнічнага складу, маюць права на адзін месяц адпачынку, а тэхнічны склад—на 20 дзён.

Працаўнікі Беларускае Дзяржаўнае Бібліатэкі карыстаюцца адпачынкам у тэрмін з 1-га ліпеня па 30 жніўня, на які час прыпыняюцца ранішнія зьмены ў абедзьвюх чытальнях.

9. Інструктары дзіцячых дамоў, гарадоў, калёній, што знаходзяцца ва ўсіх мясцовасьцях, апроч гарадоў, і інструктары ўсіх устаноў для дэфэктыўных дзяцей карыстаюцца двухмесячным адпачынкам, інструктары ўсіх іншых школьных устаноў карыстаюцца адным месяцам адпачынку, а рэшту вольнага ад заняткаў часу павінны выкарыстаць для агляду і рамонту інструмэнтаў і прыладаў і для забясьпечаньня майстэрняў патрэбнымі матарыяламі.

10. Працаўнікі тэатраў: дырэктары тэатраў, адміністратары тэатральных будынкаў, артысты, працаўнікі хору, балету, аркестру, паказчыкі і працаўнікі, што абслугоўваюць сцэну (бутафары, рэквізытары, парыкмахары, краўцы, электра-тэхнікі, работнікі сцэны) маюць права на адзін месяц адпачынку, рэшта працаўнікоў—на два тыдні.

11. Загадчыкі ўстаноў павінны да 1 мая скласьці каляндарны плян (узгоднены з мясцкомам) карыстаньня чарговымі адпачынкамі і вывесіць ва ўстанове да ведама працаўнікоў, а таксама адзначаць у актах (ф. № 5) аб уходзе ў адпачынак і аб звароце з яго.

12. Адпачынкі павінны быць выкарыстаны ўсімі працаўнікамі ў натуры і з гэтай прычыны кампэнсаваць грашыма нявыкарыстаныя адпачынкі забараняецца.

13. З выданьнем гэтага наказу касуецца наказ Народнага Камісарыяту Асьветы БССР „Аб парадку карыстаньня чарговымі адпачынкамі ў культурна-асьветных установах БССР“ за 10 мая 1928 г. № 6285.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар НК Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

12 красавіка 1929 г.
№ 164—643.

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра зацьверджаньне палажэньня „Аб камітэтах садзейнічаньня пры ўстановах сацыяльнага выхаваньня“.**

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

1. Зацьвердзіць далучанае да гэтага палажэньне „Аб камітэтах садзейнічаньня пры ўстановах сацыяльнага выхаваньня“.

2. Даручыць загадчыкам пералічаных у палажэньні культурна-асьветных установ безадкладна прыступіць да арганізацыі камітэтаў садзейнічаньня, дзе іх няма.

3. З дня арганізацыі камітэтаў садзейнічаньня ліквідаваць бацькоўскія камітэты.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР *С. Слонім.*

Сакратар Н. К. Асьветы БССР *Ю. Савіч.*

15 красавіка 1929 г.

*Дадатак.*

## Палажэньне аб камітэтах садзейнічаньня пры ўстановах сацыяльнага выхаваньня.

### I. Агульная частка.

1. У мэтах згуртаваньня навокал устаноў сацыяльнага выхаваньня грамадзкасьці, садзейнічаньня належнай пастаноўцы навучальна-выхаваўчай працы, палепшаньня матарыяльнага дабрабыту і фактычнага правядзеньня ў жыцьцё абавязковага навучаньня пры ўстановах сацыяльнага выхаваньня могуць быць арганізаваны камітэты садзейнічаньня.

2. Камітэты садзейнічаньня арганізуюцца як па ініцыятыве самой установы, так і па ініцыятыве савецкіх і грамадзкіх арганізацый і устаноў, а таксама па ініцыятыве бацькоў вучняў.

3. Камітэты садзейнічаньня арганізуюцца на год, у пачатку навучальнага году.

4. Для правядзеньня выбараў у камітэты садзейнічаньня ўстановы склікаюць агульныя сходы бацькоў дзяцей данай установы, прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і прафэсіянальных арганізацый, а таксама і грамадзян (рабочых, сялян-беднякоў, батракоў і серадпякоў), жадаючых падтрымаць матарыяльную базу ўстановы.

*Увага.* У камітэт садзейнічаньня могуць быць абраны толькі тыя грамадзяне, якія маюць выбарчыя правы, паводле Канстытуцыі БССР.

5. У склад камітэтаў садзейнічаньня ў гарадох і паселішчах гарадзкога тыпу ўваходзіць 9—13 чалавек:

а) загадчык установы,

б) прадстаўнік ад гарадзкога ці местачковага савету,

в) прадстаўнік ад больш буйных прадпрыемстваў у раёне ўстановы,

г) прадстаўнік ад райкому ЛКСМ,

д) 3—7 прадстаўнікоў ад агульнага сходу бацькоў,

е) прадстаўнікі ад дзіцячых самаарганізацый (арганізацыі піанэраў, самакіраваньня),

ж) прадстаўнік ад Жан. Аддзелу альбо жанчын-дэлегатак.

6. У сельскіх мясцовасьцях камітэты садзейнічаньня складаюцца з 7—9 чалавек:

а) загадчыка ўстановы,

б) прадстаўніка ад сельскага савету,

в) прадстаўніка ад капярацыі,

г) прадстаўніка ад сялянскае ўзаемадапамогі,

д) 1—3 прадстаўнікоў ад агульнага сходу бацькоў,

е) прадстаўніка ад дзіцячых самаарганізацый (арганізацый піанэрскіх, самакіраваньня),

ж) прадстаўніка ад ячэйкі ЛКСМБ.

7. Камітэт садзейнічаньня абірае з свайго складу старшыню, сакратара і скарбніка.

*Увага.* Загадчык установы зьяўляецца намесьнікам старшыні камітэту.

8. Сьпіс выбраных членаў камітэту падаецца на зацьверджаньне раённаму (гарадзкому) інспэктару народнай асьветы.

**II. Абавязкі камітэтаў садзейнічаньня.**

9. У абавязкі і задачы камітэту садзейнічаньня ўваходзіць:

а) дапамагаць установе ў пастаноўцы працоўнага выхаваньня і складаньня навокал установы актыву з рабочых і працоўнага сялянства, улічваючы і скарыстоўваючы думкі і прапановы піанэрскіх арганізацый і самакіраваньня вучняў у галіне палепшаньня навучальна-выхаваўчай працы установы,

б) адшуканьне дадатковых сродкаў для палепшаньня дабрабыту навучальнай установы,

в) садзейнічаньне рэгулярнаму выпаўненьню з боку насельніцтва дагавораў гаспадарчага характару на карысьць навучальнай установы,

г) дапамога ўстанове ў высьвятленьні матарыяльнага стану бацькоў пры ўстанаўленьні платы за навучаньне, пры разьмеркаваньні сродкаў на дапамогу бяднейшым дзецям,

д) садзейнічаньне бесперабойнаму вядзеньню заняткаў і сваечасоваму пачатку і сканчэньню навучальнага году,

е) садзейнічаньне ўцягненьню дзяцей батракоў і беднаты ў школы, уцягненьню дзяўчат у школы, дзіцячыя сады і ачагі,

ж) папаўненьне школьнага фонду беднаты і дапамога ў арганізацыі пры школе інтэрнату і падвозу дзяцей у школу,

з) дапамога фарпостам і вучнёўскім самакіраваньням у арганізацыі гарачых сьнеданьняў у часе заняткаў,

і) арганізацыя мерапрыемстваў па распаўсюджваньню пэдагагічных ведаў сярод бацькоў,

к) уцягненьне насельніцтва ў справу ажыцьцяўленьня ўсеагульнага абавязковага навучаньня шляхам арганізацыі: а) лекцый і дакладаў у клюбах і хатах-чытальнях з мэтай папулярызацыі ідэі ўсеагульнага абавязковага навучаньня; б) інфармацыі прэсы; в) пастаноўкі спэктакляў; г) устанаўленьня сувязі з грамадзкімі, прафэсійнымі і шэфскімі таварыствамі і г. д.

10. Два разы ў год камітэт робіць справаздачу аб сваёй працы на агульным сходзе бацькоў і дзяцей данай установы.

11. Камітэт садзейнічаньня праводзіць сваю работу па пляну, зацьверджанаму агульным сходам бацькоў.

### III. Абавязкі і зьмест працы членаў камітэту садзейнічаньня.

12. Камітэты садзейнічаньня разьмяркоўваюць сваю працу паміж паасобнымі членамі, паводле іх жаданьню, выдзяляючы ў патрэбных выпадках камісіі.

13. Члены камітэтаў садзейнічаньня выкарыстоўваюць сходы (ва ўстановах і прадпрыемствах, заводах, фабрыках, саўгасах і калгасах і інш). для інфармацыі іх аб працы камітэту і для абмеркаваньня пытаньняў, якія стаяць перад камітэтамі для атрыманьня паказаньняў грамадзян на недахопы ў працы і пажаданьняў.

14. Члены камітэтаў садзейнічаньня павінны бываць на пасяджэньнях камітэту і выконваць іх даручэньні.

*Увага.* У выпадку, калі член камітэту ня можа быць на пасяджэньні або выканаць яго даручэньне, павінен загадзя паведаміць аб гэтым камітэт.

15. Камітэт выдзяляе свайго прадстаўніка ў савет установы з правам пастаноўчага голасу.

16. Камітэт садзейнічаньня і агульны сход бацькоў, па меры патрэбы, заслухоўваюць даклады і інфармацыі загадчыка ўстановы аб працы і мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчай і навучальна-выхаваўчай справах.

17. Камітэт садзейнічаньня карыстаецца, па меры патрэбы, тэхнічным апаратам штампам і пячаткай данай установы.

### IV. Сродкі камітэтаў садзейнічаньня.

18. Адшуканьне дадатковых сродкаў у фонд палепшаньня матарыяльнага дабрабыту ўстановы камітэт праводзіць шляхам: а) дабравольных пэрыадычных уносаў як з боку бацькоў дзяцей данай установы, так і з боку паасобных грамадзян; б) дабравольных уносаў з боку прафэсійных арганізацый, капярацыі, камітэтаў узаемадапамогі, шэф. таварыстваў і г. д.; в) дабравольных штомесячных адлічэньняў ад пэнсіі бацькоў-служачых; г) шляхам пастаноўкі спэктакляў, канцэртаў, лекцый.

19. Усе сродкі камітэту паступаюць у фонд дапамогі ўстанове і бяднейшым дзецям данай ўстановы і траццаца выключна на палепшаньне дабрабыту установы: а) будаўніцтва, б) рамонт, в) арганізацыю майстэрняў, г) габінэтаў, д) інтэрнату, е) начлежкі, ж) гарачых сьнеданьняў, з) на дапамогу бяднейшым дзецям вопраткай, абуткам, падручнікамі і інш.

20. Агульны сход бацькоў устанаўляе дабравольныя адлічэньні ў фонд данае ўстановы (артыкул 13) і іншыя віды дапамогі: а) дастаўка апалу, будаўнічых матарыялаў, в) вучняў з далёкіх населеных пунктаў, г) прадуктаў для гарачых сьнеданьняў на каляктыўных асновах.

21. Адказнасьць за выдаткаваньне сродкаў, якія зьбіраюцца камітэтам, ускладаецца на старшыню камітэту, загадчыка ўстановы і скарбніка.

22. Плян выдаткаваньня сродкаў старшыня камітэту ставіць на зацьверджаньне камітэту.

## 15. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра змаганьне з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны на прадпрыемствах і ва ўстановах.**

*Усім акруговым пракурорам, старшыням акруговых судоў і старшыням працсэсій.*

За апошні час наглядаюцца выпадкі ўпадку працоўнай дысцыпліны, прагулы, хуліганства, п'янства і шэраг іншых зьявішч, шкодна адбіваючыхся на працы прадпрыемстваў і ўстаноў.

Дырэктыўнымі органамі прыняты шэраг пастаноў, якія накіраваны на барацьбу з гэтай шкодай, аднак судовыя і пракурорскія органы не ў дастатковай ступені праводзяць гэтыя дырэктывы ў сваёй практычнай працы. Нельга абмяжоўвацца тым, што да прагульшчыкаў, хуліганаў і іншых шкоднікаў савецкая грамадзкасьць адносіцца адмоўна і што ад іх адмяжоўваецца асноўная маса рабочых і служачых. Неабходны таксама рашучыя меры сацыяльнай абароны супроць паказаных шкоднікаў, як супроць сацыяльна-небясьпечных элемэнтаў.

Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе:

1. Пры разглядзе спраў аб звальненьнях за хуліганства, шкодніцтва і сьвядомы падрыў працоўнай дысцыпліны не абмяжоўвацца толькі адмовай ў аднаўленьні на працы, але і ўзбуджаць супроць віноўных крымінальнае перасьледваньне па адпаведных артыкулах Кр. Код. Сьледзтва па гэтых справах праводзіць у тэрміновым парадку, за органам суда разглядаць справы аб парушэньні працоўнай дысцыпліны, бяз якога-б то ні было перавышэньня тэрмінаў, паказаных у арт. 58 пастановы ЦВК і СНК СССР за 29 жніўня 1928 г.

2. Разглядаць праступкі прагульшчыкаў, хуліганаў і шкоднікаў, парушаючых працоўную дысцыпліну, хоць-бы і зробленыя адзін раз, як праступкі асаблівай сур'ёзнасьці, прыроўненыя да шматразовых парушэньняў правілаў унутранага парадку. Звальненьне прагульшчыкаў і г. д. у гэтых выпадках прызнаваць правільным, хоць-бы яно з знадворнага боку ня было ў дастатковай ступені аформлена. Аднак, у гэтых выпадках належыць службовых асоб, якія ня выканалі патрабуемых законам фармальнасьцяў пры звальненьні, прыцягваць да дысцыплінарнай або крымінальнай адказнасьці.

3. Пракуратуры ўзмацніць нагляд за дзейнасьцю адміністрацыйна-гаспадарчых органаў, прадпрыемстваў і ўстаноў у галіне барацьбы з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны, прыцягваючы да адказнасьці кіраўнікоў, якія патураюць і ня прымаюць патрэбных мер да падняцьця працоўнай дысцыпліны.

4. Акруговым судом пры разглядзе спраў аб парушэньнях прац. дысцыпліны ў касацыйным парадку на падставе сабраных матар'ялаў прыстасоўваць арт. 56 пастановы ЦВК і СНК СССР за 29 жніўня 1928 г. у частцы вынясеньня рашэньня па сутнасьці. Органам суду прыняць меры да таго, каб больш характэрныя справы разглядаць на прадпрыемствах па месцы парушэньня працоўнай дысцыпліны.

5. Органам Пракуратуры ўзмацніць удзел у разглядзе гэтых спраў у судзе і кас. калегіях акрсудоў, лічачы гэты ўдзел абавязковым па важнейшых з гэтых спраў.

6. Органам Пракуратуры ў бліжэйшы час праверыць выкананьне біржамі працы п. 2 пастановы СНК СССР за 6 сакавіка г. г. на падставе канкрэтных паказаньняў па гэтым пытаньні, якія дадзены НК Працы СССР (Изв. ЦИК СССР и ВЦИК, № 55, стар. 1, 1929 г.).

Старшыням акр. судоў праверыць зараз-жа, ці выканана пастанова СНК СССР за 6 сакавіка г. г. аб пераводзе работы працсэсій на вячэрні час.

7. Выходзячы з таго, што кепскае абслугоўваньне рабочых мас, парушэньне норм па ахове працы, невыкананьне калянтыўных ўмоў у частцы, накіраванай да палепшаньня быту і працы рабочых, у значнай меры мае ўплыў на ўпадак працоўнай дысцыпліны і вытворчасьць працы, органам Пракуратуры ўзмацніць кантроль за выкананьнем гаспадарчымі органамі паказаньняў інспэкцыі працы па ахове працы і выкананьнем законаў аб ахове працы на прадпрыемствах.

8. Усім судовым і пракурорскім органам высьветліць пытаньне аб падняцьці працоўнай дысцыпліны ў дакладах, выступленьнях і ў друку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі БССР *С. Гохман.*

Пракурор па працоўных справах пры НКЮ *Б. Глезераў.*

30 сакавіка, 1929 г.

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра тэрміновае вырашэньне ў судовых органах і ў судовых выканаўцаў спраў, зьвязаных з спагнаньнем запазычанасьці па сыстэме сельска-гаспадарчай капярацыі.**

*Усім акруговым і народным судом.*

У мэтах дакладнага выкананьня дырэктывы Ўраду аб забясьпечаньні сваечасовага і поўнага паступленьня запазычанасьці па сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту (пастанова СНК БССР „Аб выплаце сялянскай запазычанасьці па сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту“, вынесеная на падставе пастановы СНК СССР за 22 лютага 1929 году, прат. № 7), Народны Камісарыят Юстыцыі, для пацьвярджэньня і дапаўненьня абежнікаў сваіх за 21 мая 1927 году № 38 і за 12 лютага 1929 г. № 11, прапануе наступнае:

1. Судовыя загады па справах аб спагнаньні няўнесеных у тэрмін пазычак у карысьць органаў сельска-гаспадарчага крэдыту выдаваць не пазьней, як праз сем дзён ад дня паступленьня ў суд заявы аб выдачы судовага загаду.

2. Усе іншыя грамадзянскія і крымінальныя справы, зьвязаныя з спагнаньнем запазычанасьці па сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту і з прыцягненьнем да адказнасьці ў крымінальным парадку службовых асоб, якія па нядбайнасьці ці няўважлівасьці ня ўжылі сваечасова ўсіх захадаў да спагнаньня выдадзеных пазычак, разглядаць паводле абежніку НКЮ за 1925 г. № 94 у чарговым парадку, а іменна: крымінальныя—у першую чаргу, у парадку літ. „а“ п. 1 паказанага абежніку, а грамадзянскія—у другую чаргу, у парадку літ. „б“ таго-ж пункту гэтага абежніку.

3. Ужываць сталы нагляд за судовымі выканаўцамі з тым, каб усе спагнаньні пазычак у карысьць органаў сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту вытвараліся імі не пазьней, як праз 7 дзён ад дня паступленьня да іх спагнаньня.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

28 сакавіка, 1929 г.
№ 23.

---

Узгоднена з НКЮ, НКП БССР і ЦСПСБ.

## 17. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра парадак ажыцьцяўленьня пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“.

На падставе арт. 26 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 23 лютага 1929 г. „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“ і на адмену свае інструкцыі за 31 студзеня 1927 г. (Бюл. СНК БССР—1927 г. № 4), Народны Камісарыят Унутраных Спраў выдае наступную інструкцыю пра парадак ажыцьцяўленьня паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК БССР.

1. Стаўкі кватэрнае платы паводле пастановы ЦВК і СНК БССР за 23-га лютага 1929 году ўстанаўляюцца ў кожным горадзе БССР пастановамі гарадзкіх саветаў і праводзяцца ў жыцьцё з 1-га красавіка 1929 г.

2. У пастановах аб кватэрнай плаце павінны быць паказаны:

а) асноўная норма кватэрнае платы за адзін квадратны мэтр жылой плошчы ў даным горадзе;

б) стаўкі кватэрнае платы для рабочых і служачых і іх сем'яў за наймаемыя памяшканьні;

в) стаўкі кватэрнае платы для асоб, прыроўненых да рабочых і служачых;

г) стаўкі кватэрнае платы для асоб вольных прафэсій, для саматужнікаў і рамесьнікаў;

д) стаўкі кватэрнае платы для непрацоўных катэгорый насельніцтва;

е) парадак вылічэньня кватэрнае платы ў залежнасьці ад умоў і якасьці памяшканьняў;

ж) адказнасьць за незахаваньне ставак кватэрнае платы.

3. Асноўная норма кватэрнае платы дакладна паказана для ўсіх гарадоў БССР у арт. 1 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. і ня можа быць зьменена пастановай гарсавету. Гэтая асноўная плата бярэцца за кожны квадратны мэтр карыснай жылой плошчы з рабочых і служачых, якія атрымоўваюць заработную плату ў разьмеры ад 101 да 125 р. у месяц.

*Увага*. Адзін квадратны сажань прыроўніваецца да 4,55 квадратных мэтраў; у адпаведнасьці з гэтым павінна быць праведзена ранейшае вымярэньне ў квадратных сажнях на квадратныя мэтры.

4. Пры дапасаваньні арт. 6 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 года трэба мець на ўвазе, што пры вызначэньні кватэрных ставак з рабочых і служачых, што атрымоўваюць больш 125 р. у месяц, прымаецца пад увагу увесь іх заработак, які яны атрымліваюць за працу на працягу іх нармальнага працоўнага дня, значыць—8 гадз. для фізычнае працы, 6 гадз. для разумовай і канцылярскай працы, а для пэдагагічнага пэрсаналу ўсіх тыпаў школ мінімальная норма рабочага дня, устаноўленая пастановай СНК БССР за 9-га ліпеня 1925 г. (З. З. БССР 1925 г., № 37, арт. 332). Такім чынам, у гэты заработак ня ўключаецца звышмерны прыработак, літаратурны і пэдагагічны заработак рабочых і служачых і нагрузка асоб, што аплачваюцца па тарыфу адказных палітычных работнікаў, паводле пераліку

Нар. Кам. Працы. Паказаныя ў гэтым пераліку работнікі аплачваюць кватэрную плату, выходзячы з ставак: аднесеныя да 17 разраду плацяць з сумы 122 руб., аднесеныя да 16 разраду — з сумы 109 р. 60 кап., да 15 разраду—з сумы 102 р. 17 кап., да 14 разраду— 94 р. 55 кап. у гарадох Менску, Віцебску і Гомелі — у астатніх-жа гарадох на 10% ніжэй.

Асобы, што атрымоўваюць спэцыяльныя стаўкі і тыя, што працуюць у ўстаноўлены час у некалькіх прадпрыемствах альбо ўстановах па сумяшчальнасьці і да сваёй асноўной стаўкі атрымліваюць у дадатак спэцыяльную аплату для заахвочваньня ў рабоце (З. З. СССР 1927 г., № 16, арт. 167), альбо плату процантамі, аплачваюць кватэру з усяго свайго месячнага заробку. Паняцьце сумяшчальнасьці вызначана ў пастанове Народнага Камісарыяту Працы БССР за 1-га чэрвеня 1928 г. (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 7, стар. 14—15).

5. Калі настаўнік, пэдагагічны альбо навуковы работнік працуе у некалькіх навучальных установах розных тыпаў, то кватэрная плата бярэцца з яго з таго асноўнага заробку, які ён атрымлівае па асноўнай пасадзе.

Загадчыкі пэдагагічных устаноў у адносінах аплаты жылой плошчы прыроўніваюцца да пэдагагічных работнікаў свае ўстановы.

6. Адносна навуковых працаўнікоў навуковых устаноў і вышэйшых школ (арт. 7 пастановы ЦВК і СНК) трэба мець на ўвазе, што калі яны зарабляюць больш 200 р. на месяц, то аплачваюць жылую плошчу на агульных падставах з рабочымі і служачымі адпаведных катэгорый; калі ў іх агульны заработак менш за 200 р. у месяц, то яны аплачваюць кватэры з заработку, што атрымоўваюць на працягу мінімальнай нормы іх рабочага дня, паводле пастановы СНК БССР за 9 ліпеня 1925 г. Навуковыя працаўнікі, што атрымоўваюць зарплату паводле штатных акладаў, у адносінах кватэрнай платы прыроўніваюцца да адпаведнай катэгорыі навуковых працаўнікоў, якім заработак выплачваецца за пагадзінную працу.

7. Арт. арт. 4 і 8 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. пашыраюцца ня толькі на чырвонаармейцаў, але і на чырвонафлётцаў і сем'і апошніх.

8. Адносна вучняў (арт. 4 пастановы ЦВК і СНК БССР) трэба мець на ўвазе, што калі яны атрымоўваюць стыпэндыю больш 20 р. на месяц, то плацяць за сваю жылую плошчу ў адпаведнасьці з разьмерамі стыпэндыі на аднолькавых падставах з рабочымі і служачымі; калі-ж стыпэндыя менш 20 р. у месяц, то вучні плацяць па 5,5 к. за кожны квадратны мэтр.

Вучні, якія не атрымоўваюць стыпэндыі і ня вызвалены ад платы за навучаньне, калі знаходзяцца на чым-небудзь утрыманьні і жывуць асобна, плацяць за свае кватэры ня вышэй кватэрнай стаўкі тэй асобы, на ўтрыманьні якой яны знаходзяцца. Калі вучні маюць самастойны заработак, то яны аплачваюць свае кватэры ў адпаведнасьці з сваім заробкам на агульных падставах з рабочымі і служачымі.

9. Да катэгорыі асоб вольных прафэсій павінны быць аднесены мэдыцынскія і вэтэрынарныя дактары, фэльчары, акушэркі, масажысткі, члены калегіі абаронцаў (калі яны не ўваходзяць у калектыў абаронцаў), інжэнэры, пісьменьнікі, мастакі, разьбяры і наогул асобы, якія набываюць сродкі для існаваньня не як сталыя наёмныя работнікі, а сыстэматычна робяць паслугі ў якасьці паасобнай працы.

10. Адносна саматужнікаў і рамесьнікаў трэба мець на ўвазе, што яны падзяляюцца накапэраваных, якія зьяўляюцца членамі прамы-

словай капярацыі і аб якіх ідзе гутарка у арт. 12 пастановы ЦВК і СНК за 23 лютага 1929 г. і некапэраваных, адзіночак, аб якіх гаворыцца ў арт. арт. 13, 14, 15 і 16 памянёнай пастановы ЦВК і СНК БССР.

11. Складаючы пастановы аб кватэрнай плаце для асоб вольных прафэсій, саматужнікаў і рамесьнікаў, гарадзкія саветы павінны даць дакладнае адзначэньне ставак кватэрнае платы для кожнай катэгорыі гэтых асоб у адпаведнасьці з існуючымі формамі дзяржаўнага прыбытковага падатку і ў межах, дадзеных пастановай ЦВК і СНК БССР.

12. Да асоб непрацоўных катэгорый адносяцца тыя, што займаюцца гандлем, падрадамі, пастаўкамі, пасрэдніцтвам, маклярскімі і біржавымі апэрацыямі (апроч маклёраў фондавых і таварных біржаў), асобы, якія пражываюць выключна на прыбыткі ад сваіх альбо арэндавых дамоў, пайшчыкі прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў, асобы, якія жывуць выключна на прыбыткі з капіталаў альбо працантавых папер і наогул з якіх-небудзь непрацоўных крыніц. Да гэтае катэгорыі адносяцца і служыцелі рэлігійных культаў. Пры складаньні пастановы аб кватэрнай плаце для непрацоўнага насельніцтва гарадзкія саветы дакладна вызначаюць стаўкі ў адпаведнасьці з існуючымі тарыфамі дзяржаўнага прыбытковага падатку і ў межах, паказаных у артыкуле 17 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г.

13. Пры дапасаваньні арт. 18 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/II—1929 г. трэба мець на ўвазе:

а) калі гарадзкі савет установіць скідку за адлегласьць ад цэнтру, то ён павінен у сваёй пастанове дакладна пералічыць вуліцы гораду, для якіх, ужываюцца гэтыя скідкі;

б) пакоі лічацца прахаднымі, на якія робіцца скідка, тады, калі праз іх павінны праходзіць іншыя самастойныя наймальнікі той-жа кватэры, якія не належаць да сям'і наймальніка, што карыстаецца прахадным пакоем.

13. Паводле нормаў кватэрнае платы наймальнікі аплачваюць жылую плошчу, якую займаюць яны і іх утрыманцы (члены сям'і і хатнія работніцы), лічачы па 9,1 кв. мэтр. на чалавека. Лішкі, больш за 9,1 кв. мэтр. на чалавека, аплачваюцца ў падвойным разьмеры, пры параўнаньні з кватэрнай стаўкай, устаноўленай для данай катэгорыі платнікаў. Калі ў наймальніка з рабочых і служачых альбо прыроўненых да іх асоб лішак будзе толькі 9,1 кв. мэтр. на наймальніка, то гэты лішак аплачваецца ў звычайным разьмеры.

15. Звыш агульнай нормы жылой плошчы, паказанай у папярэднім арт. гэтай інструкцыі, на дадатковую плошчу з аплатай яе ў ардынарным разьмеры маюць права наступныя асобы:

а) хворыя, якія па сваёй хваробе патрабуюць ізаляцыі паводле заключэньня мэдычна-кантрольнай камісіі;

б) спэцыялістыя, якія па роду сваіх заняткаў павінны займацца дома;

в) навуковыя працаўнікі ўсіх вышэйшых навуковых устаноў БССР;

г) адказныя палітычныя работнікі, паводле пераліку НК Працы;

д) гэроі працы, зацьверджаныя у гэтай годнасьці ЦВК БССР;

е) вайскоўцы вышэйшага каманднага, палітычнага, адміністрацыйнага і мэдычнага складу;

ж) члены таварыства паліткатаржан.

Гэтая дадатковая плошча не павінна перавышаць 18,2 кв. мэтр. на ўсю сям'ю, незалежна ад наяўнасьці ў сям'і некалькіх спэцыялістых, адказных альбо навуковых работнікаў.

На атрыманьне дадатковай плошчы платнік павінен паказаць домакіраўніцтву пасьведчаньне ад установы або арганізацыі па месцы службы; гэроі працы і паліткатаржане падаюць адпаведныя дакумэнты;

16. Кухні, перадпакоі, калідоры, прыбіральні, ванныя і г. д., як нежылая плошча, у падрахунак ня прымаюцца. Таксама не ўключаюцца ў аплачваемую жылую плошчу часткі сьцен, пячэй і інш. абагравальных пабудоў, якія выступаюць у пакоях і ня могуць перасоўвацца.

*Увага.* Калі кватэра складаецца з аднэй кухні, якая скарыстоўваецца як жылы пакой і не скарыстоўваецца іншымі жыльцамі, то яе плошча падлягае аплаце на агульных падставах; калі-ж гэтая кухня скарыстоўваецца і іншымі жыльцамі, то яна аплачваецца, як прахадны пакой.

17. Для ўстанаўленьня разьмераў заработнае платы рабочыя і служачыя, а таксама асобы, прыроўненыя да іх, прад'яўляюць домакіраўніцтвам свае разьліковыя кніжкі, прафэсійныя білеты, альбо спэцыяльныя пасьведчаньні, якія выдаюцца ім прадпрыемствамі і ўстановамі.

18. Для атрыманьня льгот па кватэрнай плаце рабочыя і служачыя і асобы, прыроўненыя да іх, прад'яўляюць домакіраўніцтвам адпаведныя пасьведчаньні: асобы, што знаходзяцца на сацыяльным забясьпечаньні,—ад аддзелу сацыяльнага забясьпечаньня, вучні—ад навучальных устаноў аб атрыманьні дзяржаўнай стыпэндыі альбо аб вызваленьні ад платы за навучаньне, дзяржаўныя пэнсіянэры—свае пэнсійныя кніжкі, беспрацоўныя—свае кніжкі, альбо білеты прафсаюзаў з адзнакай аб беспрацоўі. Сем'і чырвонаармейцаў прад'яўляюць: а) пасьведчаньне ад адпаведнай вайсковай часткі аб знаходжаньні ў арміі члена сям'і, на ўтрыманьні якога яны знаходзяцца, і б) пасьведчаньне ад органаў міліцыі аб тым, што гэтыя сем'і знаходзіліся да прызыву на вайсковую службу чырвонаармейца на яго ўтрыманьні і аб тым, што гэтыя сем'і ня маюць самастойных прыбыткаў.

19. Разьмер прыбыткаў асоб вольных прафэсій, саматужнікаў, рамесьнікаў і асоб непрацоўных катэгорый вызначаецца паводле дакумэнтаў ад органаў Нар. Кам. Фінансаў, якія сьведчаць аб разьмеры прыбытковага падатку за папярэдняе поўгодзьдзе. Платніку даецца права ўносіць папраўкі да вызначанага разьмеру кватэрнае платы, аднак домакіраўніцтвы павінны прымаць пад увагу толькі абгрунтаваныя папраўкі.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

30 сакавіка 1929 г.
№ 36.

---

## 18. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра наданьне права органам міліцыі і крымінальнага вышуку не прымаць для дазнаньня спраў аб дробных крадзяжох маемасьці з прадпрыемстваў і ўстаноў.

У зьвязку з выданьнем народнымі камісарыятамі Працы і Юстыцыі БССР пастановы за 29-га студзеня 1929 г. № 8 (Бюл. СНК БССР 1929 г., № 2) пра пакараньні за дробны крадзеж маемасьці з прадпрыемстваў і ўстаноў, высьветлілася, што далейшае правядзеньне дазнаньняў па справах аб злачынствах, прадугледжаных увагай да

арт. 241 Крым. Кодэксу БССР, зьяўляецца лішнім і выклікае загрузку міліцыі і крым. вышуку непатрэбнай работай, бо паводле памянёнай пастановы факт дробнага крадзяжу па справах паказанай катэгорыі ўстанаўляецца злаўленьнем на месцы злачынства альбо іншымі бясспрэчнымі довадамі, а таксама паказаньнямі навочных сьведак, і, апроч таго, у кожным паасобным выпадку крадзяжу неадкладна складаецца акт і падпісваецца адміністрацыяй і сьведкаю, які даецца для азнаямленьня асобе, якая падазраецца.

З прычыны сказанага органам міліцыі і крымінальнага вышуку даецца права ня прымаць для дазнаньняў спраў аб дробных крадзяжох маемасьці з прадпрыемстваў і ўстаноў, што распачынаюцца ў парадку ўвагі да арт. 241 КК, і не рабіць па такіх справах дазнаньняў, за выключэньнем выпадкаў, калі такое дазнаньне выклікаецца неабходнасьцю, напр., для выяўленьня асобы, зрабіўшай крадзеж, альбо калі орган дазнаньня па ўласнай ініцыятыве лічыць патрэбным зрабіць расьсьледваньне.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР *Я. Кроль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

16 красавіка 1929 г.
№ 977-3/45.

---

## 19. Загад Начальніка Адміністрацыйнай Управы НКУС— Начальніка Міліцыі і Крымінальнага Вышуку БССР

**пра абвяшчэньне інструкцыі аб парадку падліку і выдаткаваньня штрафных сум, што спаганяюцца за незаконны выраб, хаваньне і выдаткаваньне сьпірытусавых напіткаў і аб парадку ўтварэньня, хаваньня, выдаткаваньня і падліку спэцыяльных сродкаў на палепшаньне быту міліцыі з адлічэньняў ад штрафных сум.**

Абвяшчаецца пры гэтым, у асобным дадатку, інструкцыя НКУС НКФ і НКП БССР пра парадак падліку і выдаткаваньня штрафных сум, што спаганяюцца за незаконны выраб, хаваньне і збыт сьпірытусавых напіткаў і аб парадку ўтварэньня, хаваньня, выдаткаваньня і падліку спэцыяльных сродкаў на палепшаньне быту міліцыі з адлічэньняў ад штрафных сум, выданая на падставе п. 6 пастановы СНК БССР за 23/I—1929 г. для кіраваньня.

Падлічваючы тое, што адмена пэрсанальнага прэм'яваньня за барацьбу з самагонаварэньнем можа, дзякуючы няправільнаму зразуменьню гэтага мерапрыемства Ураду работнікамі міліцыі і вышуку на мясцох, павесьці ў першы час да паслабленьня тэмпу гэтай барацьбы, начальнікам акруговых адміністрацыйных аддзелаў з а г а д в а ю:

1. Прыняць энэргічныя захады да таго, каб барацьба з самагонаварэньнем, якая праводзіцца міліцыяй і крымінальным вышукам, ня толькі не паслаблялася, але пайшла па лініі ўзмацненьня яе да магчымых межаў.

2. Павесьці і сыстэматычна праводзіць у далейшым шырокую растлумачальную кампанію сярод работнікаў міліцыі і крымінальнага вышуку аб шкодзе самагонаварэньня для савецкай гаспадаркі, асабліва аб дрэнным уплыве яго на хлебазагатоўчыя мерапрыемствы Ураду, аб ролі і задачах міліцыі і крымінальнага вышуку ў гэтай барацьбе, а таксама аб значэньні ўрадавага акту аб адмене персанальнага прэм'яваньня.

Разьмеркаваньне фонду штрафных сум, што паступаюць у выніку барацьбы з самагонаварэньнем і іншымі парушэньнямі, праводзіць так, каб была вызначаная прапарцыянальнасьць паміж горадам і раёнамі, зьвяртаючы належную ўвагу на заахвочваньне як паасобных працаўнікоў, так і ў цэлым міліцэйскіх аб'яднаньняў, у парадку п. „б“ арт. 3 пастановы СНК БССР за 23/І—1929 г., якімі будзе праяўлена выключная ініцыятыва і самаахвяраваньне ў барацьбе з злачыннасьцю і наогул у рабоце міліцыі, у разьмерах, якія могуць стымуляваць дастатковую энэргію па ўзмацненьню барацьбы з браварніцтвам і іншымі парушэньнямі.

Апроч гэтага, належыць прыняць адпаведныя захады да мэтазгоднага скарыстоўваньня сродкаў фонду на палепшаньне жыльлёва-бытавых умоў, на пабудову інтэрнатаў і іх абсталяваньне, на абсталяваньне і забясьпечаньне чырвоных куткоў і г. д.

У парадку скарыстоўваньня штрафных сум, што спаганяюцца за таемнае браварніцтва, на ўзмацненьне барацьбы з апошнім—адміністрацыйным аддзелам належыць пры складаньні каштарысу прадугледжваць павялічэньне ў найбольш небясьпечных па разьвіцьцю браварніцтва раёнах сродкаў на спэцвыдаткі і на правядзеньне іншых мерапрыемстваў па лініі інструктажу, нагляду і кантролю за мясцовымі органамі міліцыі і крымінальнага вышуку ў галіне ажыцьцяўленьня імі барацьбы з браварніцтвам.

Начальнік Адміністрацыйнай Управы НКУС—
Нач. Міліцыі і Крымінальнага Вышуку БССР *Я. Кроль.*

16 красавіка 1929 г.
№ 33.

---

*Дадатак.*

## Інструкцыя народных камісарыятаў Унутраных Спраў, Фінансаў і Працы БССР

**пра парадак падліку і выдаткаваньня штрафных сум, што спаганяюцца за незаконны выраб, хаваньне і збыт сьпірытусавых напіткаў і аб парадку ўтварэньня, хаваньня, выдаткаваньня і падліку спэцыяльных сродкаў на палепшаньне быту міліцыі з адлічэньняў ад штрафных сум.**

*(Выдаецца на падставе п. 6 пастановы СНК БССР за 23/І—1929 г.)*

### I.

1. Усе штрафы, што спаганяюцца ў судовым або адміністрацыйным парадку за незаконны выраб, хаваньне і збыт сьпірытусавых напіткаў і матэрый са сьпірытусам, на агульных падставах, як і ўсе сродкі мясцовага бюджэту, здаюцца ў тыя касы, якія наогул прымаюць сродкі мясцовых бюджэтаў, паводле п. 1 пастановы СНК БССР за 23 студзеня 1929 г., маюць мэтавае прызначэньне на здавальненьне наступных выдаткаў:

а) на адначасовую дапамогу сем'ям загінуўшых работнікаў міліцыі, а таксама цяжка хварэўшым працаўнікам міліцыі;

б) на палепшаньне быту работнікаў міліцыі ў час водпуску і на пасылку хворых на курорты і ў дамы адпачынку;

в) на палепшаньне жыльлёва-бытавых умоў (набыцьцё пасьцельнага абсталяваньня, абсталяваньне інтэрнатаў і інш.);

г) на ўзмацненьне барацьбы з таемным браварніцтвам.

2. Паказаныя ў арт. 1 штрафныя сумы залічваюцца ў акруговы мясцовы бюджэт. Каса, якая прыняла гэтыя сумы, павінна штомесяц пераводзіць іх у тую акруговую касу, у якой захоўваюцца сродкі акруговага мясцовага бюджэту.

3. Паказаным у арт. 1 штрафным сумам вядзецца спэцыяльны падлік, для чаго сумы гэтыя ў даходнай частцы мясцовага бюджэту паказваюцца асобна ад іншых штрафаў пад літараю „а“, § 1 разьдзелу VII („розныя паступленьні“), а ўсе іншыя штрафы пад літараю „б“ таго-ж параграфу.

4. Для праверкі правільнасьці залічэньня акруговай касай паказаных сум, мясцовыя органы міліцыі зараз-жа па сканчэньні кожнага кварталу, прысылаюць у акруговы адміністрацыйны аддзел сьпіс атрыманых імі ад кас квіткоў, пад якія здадзены паказаныя ў арт. 1 штрафныя сумы. На падставе гэтага сьпісу акруговы адміністрацыйны аддзел правярае ў акруговай касе залічэньне паказаных сум.

Сьпіс адсылаемых квіткоў органам міліцыі складаецца ў 1-м экзэмпляры.

5. Паказаныя ў арт. 1 штрафныя сумы выдаткоўваюцца выключна на патрэбы, вызначаныя ў арт. 1 гэтае інструкцыі.

6. Выдаткаваньне паказаных вышэй сум робіцца ў межах сапраўднага іх паступленьня па меры патрэбы, па асобных разьмеркаваньнях, складаемых акруговым адміністрацыйным аддзелам і зацьвярджаемых акруговым выканаўчым камітэтам.

7. Штогод па акруговаму мясцоваму бюджэту за лік паказаных штрафных сум па разьдзелу II выдатковага каштарысу міліцыі, звыш нармальных выдаткаў на ўтрыманьне міліцыі, прадугледжваецца выдатак на мэты, вызначаныя ў арт. 1-м у суме паступленьняў штрафаў, што мяркуецца атрымаць.

8. Выдача з кас і кантроль за правільнасьцю скарыстаньня паказаных штрафных сум робіцца на агульных падставах з усімі мясцовымі сродкамі акруговага бюджэту.

9. Нескарыстаныя штрафныя сумы застаюцца ў мясцовых сродках акруговага бюджэту і ў наступным годзе выдаткоўваюцца таксама на мэты, прадугледжаныя ў арт. 1-м гэтае інструкцыі.

## II.

10. Адлічэньні ад штрафных сум, апроч штрафаў, паказаных у арт. 1 гэтае інструкцыі, якія паводле існуючых законаў ідуць на прэм‘яваньне работнікаў міліцыі, паводле пастановы СНК БССР за 23 студзеня 1929 г., залічваюцца ў спэцыяльныя сродкі на палепшаньне быту міліцыі.

11. Паказаныя спэцыяльныя сродкі знаходзяцца ў распараджэньні начальнікаў акруговых адміністрацыйных аддзелаў і захоўваюцца ў тых касах, у якіх захоўваюцца сродкі акруговых мясцовых бюджэтаў.

12. Усе касы, у якія паступяць адлічэньні ад штрафных сум у спэцыяльныя сродкі на палепшаньне быту міліцыі, павінны пераводзіць паступіўшыя сумы адлічэньняў у акруговую касу, у якой захоўваюцца паказаныя спэцыяльныя сродкі.

13. Для падліку гэтых сродкаў акруговым адміністрацыйным аддзелам касай, у якой захоўваюцца гэтыя сродкі, аб усіх паступіўшых сумах па сканчэньні месяца пасылаецца адміністрацыйнаму аддзелу паведамленьне.

*Увага.* Па ўзаемнай згодзе адміністрацыйнага аддзелу і касы тэрмін пасылкі паведамленьняў можа быць устаноўлен іншы.

14. Выдаткаваньне паказаных спэцыяльных сродкаў робіцца па асыгноўках акруговага адміністрацыйнага аддзелу на патрэбы, вызначаныя ў п. 3 пастановы СНК БССР за 23 студзеня 1929 г., як-та:

а) на жыльлёвае будаўніцтва для працаўнікоў міліцыі ў разьмеры 25% агульнай сумы гэтых сродкаў;

б) на матар'яльную дапамогу паасобным работнікам міліцыі, калі імі будзе праяўлена выключная ініцыятыва і самаахвяраваньне ў барацьбе са злачыннасьцю і ў іншых галінах працы міліцыі, а таксама ў выпадках хваробы іх саміх, або членаў іх сям'і;

в) на пасылку для лячэньня і ў дамы адпачынку.

15. Выдаткаваньне паказаных спэцсродкаў робіцца на падставе асобных каштарысаў, якія штогод складаюцца акруговым адміністрацыйным аддзелам і зацьвярджаюцца акруговым выканаўчым камітэтам.

16. Спэцыяльныя сродкі на палепшаньне быту міліцыі кантралююцца на агульных падставах з усімі іншымі спэцсродкамі.

17. Праверка правільнасьці залічэньня акруговай касай гэтых сум праводзіцца парадкам, паказаным у арт. 4 інструкцыі.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

За Народнага Камісара Фінансаў БССР *М. Кардашэнка.*

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

13 красавіка 1929 г.

---

## 20. Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

**пра адказнасьць дворнікаў і рабочых камгасаў за парушэньне абавязковых пастаноў пра ачыстку двароў, вуліц і плошчаў ад гразі і сьмецьця.**

*Усім акруговым адміністрацыйным аддзелам.*

З прычыны паступаючых запытаньняў, як павінны адказваць дворнікі і рабочыя камгасаў за парушэньне абавязковых пастаноў пра ачыстку двароў, вуліц і гарадзкіх плошчаў ад гразі і сьмецьця, Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР растлумачвае:

1. За невыкананьне абавязковых пастаноў мясцовых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў аб санітарным утрыманьні месцаў грамадзкага карыстаньня (двароў, вуліц, сквэраў, плошчаў і г. д.) ня могуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасьці ў парадку пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 мая 1928 г. (З. З. БССР 1928 г. № 17, арт. 160):

а) дворнікі і іншыя асобы, якія выконваюць тэхнічныя абавязкі па санітарным утрыманьні домаўладаньняў;

б) рабочыя органаў камгасаў (у тым ліку дзесятнікі і старшыя рабочыя, якія займаюцца прыбіраньнем месц грамадзкага карыстаньня).

2. Адміністрацыйныя пакараньні за парушэньне памянёных вышэй абавязковых пастаноў павінны накладацца на асоб, якія зьяўляюцца адказнымі за домаўладаньне (домаўласьнікі, кіраўнікі домаўладаньняў, камэнданты і г. д.) альбо на адпаведных службовых асоб органаў камгасу (загадчык аддзелу ачысткі), у абавязак якіх уваходзіць арганізацыя і прыняцьце захадаў да своечасовага выкананьня абавязковых пастаноў.

Дворнікі і іншыя асобы, якія выконваюць тэхнічную работу па домаўладаньню, а таксама рабочыя камгасаў за невыкананьне сваіх абавязкаў адказваюць перад сваімі наймальнікамі ў дысцыплінарным парадку, паводле правілаў унутранага парадку, што выдаюцца на падставе дзеючага заканадаўства аб працы.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

18 красавіка 1929 г.
№ 46.

---

## 21. Санітарныя правілы будаваньня, абсталяваньня і ўтрыманьня сталовых грамадзкага харчаваньня ў БССР.

1. Выбар мейсца, пабудова і абсталяваньне сталовых адміністрацыяй папярэдне ўзгадняецца з санітарнай арганізацыяй.

2. Адчыняць сталовыя не дазвалаецца ў тых памяшканьнях, якія знаходзяцца на адлегласьці менш 64 мэтраў ад мейсц забруджваньня, як напрыклад: склады розных адкідаў, рагожныя, валасяныя і гарбарныя прадпрыемствы, конскія двары і інш.

3. Двор сталовай павінен быць добра выбрукаваны ці асфальтаваны і мець належныя сьцёкі для дажджавых і брудных вод.

4. Нужнікі і памыйныя ямы ва двары сталовай не павінны быць бліжэй 6 мэтраў ад яе.

5. Пры складаньні праекту ці распланаваньня гатовага будынку пад сталовую павінны быць прадугледжаны наступныя паасобныя часткі сталовай: кухня, каморка пры ёй для хаваньня прадуктаў, моечная, загатовачная, абедзеныя залі, пакой для пэрсаналу, разьдзявальня, прыбіральня з умывальнікамі, а таксама склеп і леднік.

*Увага.* Зьмяншэньне колькасьці паасобных частак сталовай ці аб‘яднаньне некаторых відаў вытворчасьці ў адным пакоі можа быць дапушчана па ўзгадненьні з санітарнымі органамі.

6. Агульныя памеры сталовай вызначаюцца ў залежнасьці ад аб‘ёму і характару абслугоўваньня і прапускной здольнасьці.

7. Плошча абедзенай залі вызначаецца з разьліку колькасьці абедаючых у адну зьмену і мінімуму 1,4 кв. мэтры на чалавека. Плошча кухні—з разьліку 5 кв. мэтраў карыснай плошчы на 1 працуючага ў кухні ў адну зьмену, моечнай—4 кв. мэтры на адну асобу, 2 загатовачныя (для мясных прадуктаў і кораньплодаў)—$^2/_3$ да агульнае плошчы кухні, камора для хаваньня прадуктаў—$^1/_2$ агульнае плошчы кухні, пакой для служачых—1,5 кв. мэтраў на чалавека аднае зьмены.

*Увага.* Плошча іншых дапаможных частак сталовай: разьдзявальні з касай, 2 прыбіральняў (мужчынскай і жаночай), камора для бялізны і сэрвіровачная, кантора і інш. павінна складаць 20—25% агульнае плошчы сталовай.

8. Вышыня ўнутраных сьцен павінна быць ня менш 3-х мэтраў; сьцены кухні і моечнай павінны быць вышэй за іншыя часткі сталовай.

9. Вэнтыляцыяй павінен быць прадугледжаны ня менш як 3-хразавы абмен паветры ў гадзіну ў часе працы сталоўкі. У кухні і моечнай вэнтыляцыяй павінна быць прадугледжана рацыянальнае выдаленьне пару, які там утвараецца ў працэсе работы. У мейсцы хаваньня прадуктаў таксама павінен быць прадугледжаны абмен паветры.

10. Сьцены і столь павінны быць абтынкаваны і пабелены вапнай. Афарбоўка цёмнай фарбай забараняецца. Ніжняя частка сьцен на паўтара мэтры павінна быць афарбавана масьлянай ці клеявой фарбай, а ў кухні і моечнай—абліцавана кахлямі.

11. Падлога павінна быць зроблена з матар'ялу, які не прапушчае вільгаці і легкага для ачысткі:—плітачная, паркетная, эбанітавая, драўляная, шчыльна складзеная; драўляная падлога павінна быць пакрыта аліфай і афарбавана.

12. Абсталяваньне, пасуда і наогул начыньне сталовай павінны быць сьціпнага вырабу і зручнай для карыстаньня. Сталовую пасуду і начыньне з дрэва ўжываць не дазваляецца. Забараняецца ўжываць пасуду, матар'ял якой мае шкодныя для здароўя прымешкі (сьвінец, шкодныя солі важкіх мэталяў і інш.). Медная пасуда павінна своечасова лудзіцца. Эмаліраваную кухонную пасуду ўжываць не дазваляецца.

*Увага.* Склад і форма пасуды і начыньне сталовай вызначаецца гаспадарчымі органамі па згодзе з санітарным наглядам.

13. Асьвятленьне вытворчай часьці сталовай і абедзеных заляў павінна быць з каэфіцыэнтам сьветлавой плошчы ня менш як 1:8.

14. Цяпла ў вытворчай часьці і абедзеных залях у самыя халодныя часы году не павінна быць менш 17—20 °C.

15. Забараняюцца вытворчыя працэсы ў калідорах і праходах, а таксама забараняецца застаўляць іх шафамі, сталамі і інш. рэчамі.

16. Трымаць і хаваць паблізу харчовых прадуктаў брудныя рэчы забараняецца.

17. Сьціраць бялізну, начаваць, трымаць і вадзіць у сталовую сабак, кошак і інш. забараняецца. Забараняецца таксама ў вытворчай часьці сталовай, абедзеных залях і мейсцах хаваньня прадуктаў курыць.

18. Працаўнікі сталовай у працэсе сваёй працы павінны мець чыстую спэцвопратку: кухары—халаты і каўпакі, чорнарабочыя і падавальшчыкі—хвартухі.

19. Працаўнікі сталовых падлягаюць мэдычнаму абгляду паводле пастановы НКАЗ і НКП БССР.

20. Кожная сталоўка павінна мець установуленага органамі аховы здароўя ўзору санітарны сшытак, куды ў выніку санітарнага агляду санітарны доктар уносіць свае заўвагі.

21. Памяшканьне, абсталяваньне, пасуда і інш. рэчы сталовай павінны трымацца ў чыстаце, спраўнасьці і парадку.

*Увага.* Падмятаць падлогу патрэбна вільготным спосабам бяз узьняцьця пылу, для чаго можна скарыстоўваць вільготныя апілкі. Сталая пасыпка апілкамі не дазваляецца. Мыць падлогу ў вытворчай часьці сталоўкі і мейсцах карыстаньня наведвацелямі яе патрэбна штодня.

22. На відных мейсцах павінны быць вывешаны санітарныя правілы па ўтрыманьні сталовай і правілы унутранага парадку.

23. У мейсцах карыстаньня наведвацелямі і вытворчай часьці сталовай павінна быць патрэбная колькасьць мэталёвых, легка паддаючыхся ачыстцы плявацельніц, а таксама урны для сухога сьмецьця.

24. Драўляныя сталы ў абедзеных залях павінны быць накрыты кляенкамі, абрусамі ці мармуровымі пліткамі. Колькасьць сталоў вызначаецца ў залежнасьці ад прапушчальнай здольнасьці сталовай у адну зьмену і з разьліку мінімум 0,75 м. на адну асобу.

25. Буфэт павінен быць забясьпечаны патрэбнай пасудай для хаваньня і трыманьня халодных закусак з шклянымі крышкамі, каўпакамі ці сеткамі, для папярэджаньня закусак ад забруджваньня.

26. Усе недаедкі і абрэзкі прадуктаў павінны прыбірацца безадкладна. Хаваньне іх у буфэтах ці ў шафах з чыстай пасудай і іншым начыньнем забараняецца. На абедзеных сталох ці ў іншых спэцыяльных мейсцах павінна быць заўсёды гатаваная і астуджаная вада для піцьця, якая хаваецца ў шкляных графінах ці спэцыяльнай пасудзе з няшкоднага мэталю з сталымі пры іх чыстымі і зручнымі для карыстаньня шклянкамі ці кубкамі для піцьця.

27. Калі кухня знаходзіцца на верхнім паверсе, абавязкова павінен быць ліфт.

*Увага.* Зьмяшчаць кухню ў сутарэньні недазваляецца, а ў паўсутарэньні—толькі з дазволу санітарнае арганізацыі.

28. Вокны вытворчай часьці сталоўкі на летні час павінны быць завешаны мэталёвымі ці марлявымі сеткамі.

29. Кухонныя сталы, прызначаныя для разборкі прадуктаў, павінны быць абабіты ацынкованым жалезам і мець такія-ж сьценкі над паверхняй стала.

30. Для працаўнікоў кухні там ставіцца ўмывальнік з рушнікам і мылам пры ім. Пры наяўнасьці вадаправоднай ракавіны можна карыстацца апошняй.

31. Дровы на кухне дазваляецца трымаць ня звыш дняўной патрэбы ў асобных скрынках.

32. Забараняецца гатаваць халаднікі на негатаванай вадзе і астуджваць іх кіданьнем у іх лёду. Кідаць лёд для астуджваньня можа толькі заведама чысты, штучнага вырабу.

33. Загатовачная прызначаецца для папярэдняе апрацоўкі, загатоўкі і прамыўкі караньплодаў, зяляніны, мяса, рыбы і інш. Абсталяваньне загатовачнай, апрач задаволеньня патрэб вытворчасьці, павінна адпавядаць санітарным запатрабаваньням—сьціпнага вырабу, лёгкае для чысткі, зручнае для карыстаньня і г. д.

34. Каморка пры кухні прызначаецца для хаваньня невялікіх запасаў сухіх прадуктаў. Абсталяваньне яе павінна складацца з спэцыяльных скрынак з засекамі з шчыльнымі крышкамі і паліц для паасобных відаў прадуктаў.

35. Мясныя, рыбныя і іншыя прадукты, што хутка псуюцца, для дняўнога расходу павінны хавацца ў спэцыяльных скрынках ці шафах-ледніках. Калі лёд зьмяшчаецца зьнізу, то над ім павінна быць рашотка, на якую і ставяцца ці кладуцца прадукты.

*Увага.* Вялікія запасы прадуктаў, што хутка псуюцца, павінны хавацца на асобных ледніках.

36. У кухні не дазваляецца трымаць верхняе вопраткі служачых і староньніх рэчаў.

37. Уваход у кухню асобам, якія яе непасрэдна не абслугоўваюць, не дазваляецца. Раздача гатовае стравы павінна ўтварацца праз спэцыяльна-зробленыя вокны.

38. Для мыцьця пасуды ў моечнай павінна быць ня менш 2-х ракавін (лаханак) з падводкай да іх гарачай і халоднай вады і адводам брудных вод у каналізацыю ці памыйную яму.

*Увага.* Воды з моечнай і кухонныя да пападаньня іх у каналізацыю ці памыйную яму павінны праходзіць праз тлушчалоўкі.

39. У моечнай павінна быць ня менш 3 сталоў, абабітых белай бляхай: адзін для бруднае пасуды, другі для чыстае і трэці для чысткі вілак і нажоў.

40. Для хаваньня шчотак, мачалак, мыльнага парашку, соды і інш. павінны быць спэцыяльныя паліцы і прысьценныя скрынкі.

41. Правільнае мыцьцё пасуды ручным спосабам павінна ўтварацца наступным чынам:

а) ачыстка пасуды ад буйных недаедкаў пры дапамозе спэцыяльнае шчоткі ці надзетай на руку пальчаткі;

б) мыцьцё пасуды чыстай шчоткай у ракавіне пасьля выдаленьня недаедкаў у вадзе пры 60—65° з дабаўленьнем соды і мыла, мяняючы пры гэтым ваду па меры яе забруджваньня;

в) прамыўка пасуды цякучым варам у другой ракавіне, у якой верхні пласт вады, як больш забруджаны, увесь час сьцякае;

г) сушка пасуды ў спэцыяльных сушылках.

42. Нажы пасьля чысткі іх абавязкова спаласкваюцца гарачай вадой і насуха выціраюцца чыстым рушнікам.

43. Падлога моечнай у мейсцы працы пакрываецца драўлянымі рашоткамі.

44. Абсталяваньне пакою для працаўнікоў наступнае: стол, крэслы, умывальнік з неабходнымі да яго рэчамі (рушнік, мыла), вешалка ці асобыя шкафчыкі для верхняй вопраткі.

45. Лік ракавін і пісуараў у цёплых прыбіральнях вызначаецца з разьліку па 1 на 50 абедаючых і служачых у адну зьмену. Колькасьць умывальных крантаў—1 на 25 чалавек.

*Увага.* Калі ўмывальня знаходзіцца разам з прыбіральняй, яна аддзяляецца няпоўнай да верху перагародкай.

46. Мейсцы хаваньня запасаў прадуктаў (склепы, леднікі) і абсталяваньне іх павінны трымацца ў чыстаце, справунасьці і быць зручнымі для карыстаньня: зручныя лесьвіцы, ліфты для падачы вялікіх грузаў, электрычнае асьвятленьне і г. д.

47. У скляпох для кожнага віду прадукту павінны быць асобна вызначаныя мейсцы з спэцыяльна дапасаваным абсталяваньнем. Хаваньне прадуктаў, што хутка псуюцца, у ледніках падпарадкоўваецца правілам, вызначаным у § 35, а ў камерных ледніках падвешваюцца ці раскладаюцца на сталох і інш.

48. У разьдзявальні павінна быць вешалка з разьліку прапускной здольнасьці аднае зьмены.

49. Каса можа зьмяшчацца ў разьдзявальні ці прыхожай (вэсьцібюль).

50. Парушыцелі гэтых правілаў падлягаюць адміністрацыйнай адказнасьці паводле абавязковых пастаноў, выданых у адпаведнасьці з гэтымі правіламі выканаўчымі камітэтамі і гар. саветамі.

Нар. Кам. Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*
Старшыня Рабсэкцыі Белкаапсаюзу *Кумкес.*
Інспэктар Санітарна-Гігіенічнай Справы
НКАЗ БССР *Магілеўчык.*

16 сакавіка 1929 г.

---

Узгоднены з Вэтнаглядам, Белсельтрэстам і Белмалжывелавод.саюзам.

## 22. Санітарныя правілы

### пра адчыненьне і ўтрыманьне малочных і сыра-масла-выробных прадпрыемстваў у БССР.

1. Малочныя, сыра-і масла-выробныя прадпрыемствы да іх адчыненьня падлягаюць папярэдняму санітарнаму абгляду і заключэньню санітарных органаў аб санітарнай годнасьці іх, паводле пастановы СНК БССР за 23/IX-1926 г. § 4 „Аб санітарных органах НКАЗ БССР“ (З. З. БССР 1926 г. № 37, арт. 137) і пастановы НКАЗ і НКУС БССР „Аб па-

пярэднім санітарным наглядзе ў галіне кватэрна-камунальнага будаўніцтва і дабрабыту залюднёных мейсц“ (Бюлетэнь СНК 1928 г., № 3).

2. Малочныя, сыра-і масла-выробныя прадпрыемствы павінны будавацца наводаль ад брудных мейсц (хлявоў, загонаў, дарог і інш.) на адлегласьці ня менш 21 мэтра.

3. Плянаваньне заводу і агульныя разьмеры яго ў кожным выпадку вызначаюцца асобна, у залежнасьці ад аб‘ёму вытворчасьці, прымаючы пры гэтым пад увагу, што ўсе работы павінны праводзіцца з захаваньнем належнага парадку і чыстаты. Вышыня сьцен павінна быць ня менш 3 мэтраў.

*Увагі:* 1. У залежнасьці ад характару вытворчасьці павінны быць прадугледжаны адпаведныя месцы для хаваньня гатовых вырабаў.

2. Пры кожным заводзе павінен быць леднік з запасам на летні час лёду, адпаведна аб‘ёму вытворчасьці.

4. Жылое памяшканьне для рабочых не павінна мець непасрэднае сувязі з вытворчымі памяшканьнямі. Часовае пражываньне і начлег рабочых на заводзе не дазваляецца, таксама не дазваляецца хаваньне там рэчаў, якія ня маюць непасрэдных адносін да вытворчасьці.

5. Падлога павінна быць шчыльная, роўная і лёгка паддаючаяся ачыстцы (драўляная, абавязкова зьбітая ў закрой і прааліфаваная, асфальтна-цэмэнтная, плітачная ці бэтонная).

Падлогі павінны быць з ухілам для сьцёкаў і адводамі ў сьцёчныя ямы.

*Увага.* Адводныя каналы павінны мець пры выхадзе з заводу вадзяны (сыфонны) запор, а пасьля выхаду—тлушчалоўкі.

6. Вокны павінны ня менш як на 50% агульнага ліку іх мець затворныя рамы і форткі, ці фрамугі і быць афарбаванымі масьлянай фарбай. Улетку для абароны ад пападаньня мух вокны павінны мець сеткі. Сьветавая плошча вакон павінна складаць ня менш 1/8 плошчы падлогі.

*Увага.* Характар вэнтыляцыі ў буйных прадпрыемствах у кожным выпадку ўстанаўляецца асобна.

7. Пры адсутнасьці каналізацыі, агульныя месцы зьбіраньня бруду і адкідаў (нужнікі, памыйныя ямы і скрынкі для сьмецьця), павінны будавацца ня бліжэй 21 мэтра ад прадпрыемства.

*Увагі:* 1. Пабудова нужнікаў, памыйных ям і сьмяцьцёвых скрынак і ўтрыманьне іх падпарадкоўваецца агульна-санітарным правілам па гэтай частцы.

2. Памыйныя ямы, сьмяцьцёвыя скрынкі і нужнікі, апроч утрыманьня іх у спраўнасьці і своечасовай ачысткі ўлетку павінны ня менш аднаго разу ў тыдзень залівацца рашчынай хлёрнае вапны.

8. Сьцены і столь заводаў павінны быць абтынкаваны і пабелены вапнай; панэль (1,5 м.) афарбоўваецца сьветлай масьлянай фарбай. Пабелка вапнай павінна аднаўляцца ня менш 5-ці разоў у год, больш часта ўлетку. Вушакі, дзьверы і падакеньніцы павінны быць афарбаваны сьветлай масьлянай фарбай. Паліцы, падакеньніцы і інш. штодзенна выціраюцца чыстай вільготнай шматай.

9. Пасуда на прадпрыемстве павінна ўжывацца гладкая, лёгка паддаючаяся ачыстцы і з няшкоднага для здароўя матар‘ялу. Малако, дастаўленае на завод ці ў малочную ў бруднай пасудзе, не павінна прымацца. У часе дастаўкі пасуда павінна быць шчыльна закрыта крышкай ці чыстым палатном. Прыём малака павінен утварацца праз спэцыяльнае вакно ў сьцяне прыёмнай.

*Увага.* Вызначэньне стандартнага тыпу пасуды гаспадарчымі органамі ўзгадняецца з санітарным наглядам.

10. Мыцьцё пасуды і іншых прыладаў пасьля работы павінна рабіцца ў цёплай вадзе шчоткамі, з прыбаўкай лугу ці соды, а пасьля спаласкавацца чыстай гарачай вадой.

11. Падлога, пасьля сканчэньня працы, павінна штодзённа вымывацца цёплай вадой, а ўлётку апроч гэтага ня менш аднаго разу ў тыдзень пакрывацца вапнай, якая пасьля змываецца гарачай вадой.

12. Усе прылады і іншае начыньне, маючае дачыненьне да вытворчасьці, павінны трымацца ў чыстаце і парадку.

13. Прадукты гатовага вырабу і прыпасы, што ўжываюцца ў вытворчасьці, павінны захоўвацца ў адпаведных умовах у чыстаце і належным парадку.

14. Працаўнікі, што маюць дачыненьне да вытворчасьці, падлягаюць мэдычнаму агляду паводле пастановы НКАЗ і НКП БССР (Бюлетэнь СНК 1928 г. № 6).

*Увага.* Аб усіх выпадках захварэньня рабочых патрэбна неадкладна паведамляць бліжэйшую мэдыка-санітарную ўстанову.

15. На заводах павінны быць плявацельніцы і рукамыйнікі з мылам і чыстым рушніком. Курыць і пляваць на падлогу забараняецца. Адпаведныя надпісы вывешваюцца на відным мейсцы.

16. У выпадку зьяўленьня на буйнай рагатай жывёле заразьлівых хвароб: яшчура, шалёнства, сібіркі, сухотаў, воспы і інш., вэтэрынарны і мэд.-санітарны нагляд мае права забараніць прыём малака з заражаных пунктаў і двароў ці абавязаць пастэрызаваць малако, у залежнасьці ад віду хваробы.

17. На ўпакоўцы кожнага прадукту, які выпушчаецца прадпрыёмствам, павінен быць друкаваны надпіс з назвай заводу і вызначэньнем часу вырабу яго. Папера для ўпакоўкі павінна быць спэцыяльна абвертачнай і чыстая (для масла—пэргамэнтная).

18. Вада, якой карыстаюцца на прадпрыемстве, павінна быць дабраякаснай у санітарных адносінах і адпавядаць патрабаваньням вытворчасьці.

*Увагі:* 1. Студня, з якой бярэцца вада, павінна знаходзіцца на адлегласьці 21 мэтра ад брудных мейсц, павінна быць забясьпечана ад пападаньня ў яе брудных сьцёкаў і быць заўсёды зачыненай крышкай, ахоўваючай яе ад пападаньня сьмецьця.

2. Для ўстанаўленьня прыгоднасьці вады ў санітарных адносінах, прадпрыемства павінна пасылаць узор яе для дасьледваньня ня менш двох разоў у год (вясной і ўвосень) у бліжэйшую санітарна-бактэрыялёгічную лябараторыю НКАЗ.

19. Гэтыя правілы распаўсюджваюцца на ўсе новыя заводы, што будуюцца, і ўступаюць у сілу праз 2 месяцы пасьля выданьня.

20. Тэрмін упарадкаваньня існуючых прадпрыемстваў паводле вызначаных правілаў, устанаўляецца мясцовымі санітарнымі органамі.

21. У адпаведнасьці з гэтымі правіламі выканаўчыя камітэты выдаюць абавязковыя пастановы з вызначэньнем пакараньня за парушэньне гэтых правілаў.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Інспэктар Санітарна-Эпідэмічнай Часьці НКАЗ БССР *Магілеўчык.*

23 сакавіка 1929 г.

Узгоднена з Упаўнаважаным НК Замежных Спраў СССР пры Ўрадзе БССР.

## 23. Санітарныя правілы пра пахаваньне памёршых.

1. Пахаваньне памёршага можа быць дазволена толькі пасьля запісу аб сьмерці адпаведнымі органамі ЗАГС у парадку, прадугледжаным арт. арт. 22—27 дадатку 1 да Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (З. З. БССР 1927 г., № 7, арт. 26).

2. Трупы памёршых ад вострa-заразных хвароб—халеры, плямістага (высыпнога) тыфусу, воспы, шкарлятыны, дыфтэрыі, насацізны (сапа) і сібіркі, калі да іх ня былі ўжыты меры да пазбаўленьня заразы, павінны безадкладна выносіцца з жыльлёвых памяшканьняў і хавацца не пазьней за суткі пасьля сьмерці.

3. Забараняецца хаваць трупы памёршых бяз судова-мэдычнага абгляду іх у наступных выпадках: 1) калі ёсьць падазрэньне, што сьмерць зьявілася прычынай злачыннага дзеяньня; 2) калі сьмерць наступіла хутка пасьля атрыманьня пакалечаньня, якое здарылася адякога-небудзь знадворнага мэханічнага ці фізычнага націску; 3) у выпадках самагубства; 4) у выпадках раптоўнай сьмерці ад невядомае прычыны; 5) калі мёртвае цела было знойдзена; 6) калі ёсьць падазрэньне, што сьмерць наступіла з прычыны ўмярцьвеньня ці няўмыснага выгнаньня плода ці няправільнага лячэньня.

4. Забараняецца несьці труны з нябожчыкамі адчыненымі ў тых выпадках, калі сьмерць здарылася ад востра-заразных хвароб—халеры, высыпнога (плямістага) тыфусу, воспы, шкарлятыны, ружы, дыфтэрыі, насацізны (сапа) і сібіркі, а таксама ўнясеньне гэткіх трунаў у царкву, кірку і т. п. і пакіданьне іх там, калі да цела памёршага ня былі ўжыты меры пазбаўленьня ад заразы. Ужыцьцё паказаных вышэй мер павінна быць пасьведчана доктарам ці фэльчарам.

Забараняецца перавозка дамоў памёршых ад паказаных вышэй заразных хвароб у больніцах.

5. Дазвол на перавозку трупаў (быўшых ці ня быўшых пахаванымі) з аднэй акругі ў другую, а таксама ў межах аднэй і тэй-жа акругі даецца акруговым санітарным доктарам, які павінен з свайго боку паведамляць аб дадзеным ім дазволе санітарнага доктара тэй акругі, куды труп перавозіцца.

6. Выкопваньне трупаў і перавозка трунаў з нябожчыкамі можа быць дазволена пры ўмове дасканалага захаваньня тых правілаў, якія будуць паказаны санітарным наглядам.

7. Трупы памёршых ад незаразьлівых хвароб могуць выкопвацца для перавозкі незалежна ад часу пахаваньня. Выкопваньне-ж для перавозкі трупаў памёршых ад востра-заразных хвароб—халеры, плямістага (высыпнога) тыфусу, воспы, шкарлятыны, ружы, дыфтэрыі, насацізны (сапа) і сібіркі, можа дазваляцца не раней чым, праз адзін год пасьля пахаваньня.

8. Мёртвыя целы могуць перавозіцца з-за межаў для пахаваньня ў межах БССР з дазволу органаў Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя, аб чым паведамляюцца належныя мытныя органы.

9. Трупы, якія перавозяцца з-за межаў СССР для пахаваньня ў межах БССР, кладуцца ў шчыльна-залітаваную, мэталічную труну, а апош-

няя кладзецца ў шчыльную драўляную. Выкананьне гэтага патрабаваньня сьведчыцца адпаведнымі паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі, пасольствамі, місіямі, консульствамі СССР.

10. У выпадку прывозу трупа з-за межаў без належнага дазволу (арт. 8), апошні пахоўваецца на бліжэйшых да мяжы могілках.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

## 24. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

**пра ўжываньне пастановы СНК БССР за 1 красавіка 1929 г. (прат. пасядж. СНК БССР № 85) „Пра парадак выдачы дапамог непрацаздольным членам сем'яў асоб, што прызваны ў Чырвоную Армію".**

1. Сталая грашовая дапамога, якая даецца на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 31/XII 1926 г. „Аб забясьпечаньні сем'яў грамадзян, якія заклікаваны на сапраўдную вайсковую службу ў кадравым складзе частак Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі", пачынаючы з 3 кварталу 1928-29 бюджэтнага году адпаведнымі гарадзкімі саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі павінна выдавацца за 3 м-цы наперад, не пазьней 10 дня першага месяца кожнага кварталу.

2. Калі да атрыманьня гэтага абежніку дапамога за красавік м-ц 1929 г. ужо будзе выдадзена, дык да 10 мая 1929 г. выдаць дапамогу за май і чэрвень м-цы.

3. Фінансавым аддзелам і інспэктаром сацыяльнага забясьпечаньня акруговых выканаўчых камітэтаў прасачыць за дакладным і своечасовым правядзеньнем гэтага абежніку ў жыцьцё.

За Народнага Камісара Фінансаў БССР *М. Кардашэнка.*

Народны Камісар Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *Масальскі.*

6 красавіка 1929 г.
№ 2402-9|3.

## 25. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра ўстанаўленьне гранічных адпускных цэн на абутак вырабу мясцовай нетрэставанай прамысловасьці БССР.**

На падставе п. 1 літ. „в" і „і" арт. 3 Палажэньня аб НК Гандлю БССР (З. З. БССР 1928 г., № 34, арт. 319) і абежнікаў НК Гандлю СССР за 6—10 кастрычніка і 12 лістапада 1928 г. „Аб устанаўленьні цэн на абутак мясцовай прамысловасьці", Народны Камісарыят Гандлю БССР для адмены свае пастановы за 10 красавіка 1928 г., № 35 пастанаўляе:

I. Устанавіць на ўсёй тэрыторыі БССР наступныя гранічныя адпускныя цэны на абутак выпрацоўкі мясцовай нетрэставанай прамысловасьці БССР (саматужна-прамысловай, працоўных калектываў,

акруговых выканаўчых камітэтаў, інваліднай) ф-ка склад прадаўца ў запакаваным відзе (у каробках і скрынках):

а) На боты: ялавыя, выцяжныя форменныя, з даўжынёй галянішча 12 вяршкоў, (скураныя паднарады і падклейка ручной работы, фальшывы рант, цьвёрды насок) . . . 16 р. 20 к. за пару

б) На такія-ж боты рабочага ўзору, без ранта і цьвёрдага наска . . . 15 р. 15 к. „ „

*Увага.* За боты з галянішчамі звыш альбо ніжэй 12 вяршкоў цана адпаведна павышаецца ці паніжаецца на 75 кап. за кожны лішні ці нехапаючы вяршок.

**Абутак мэханічнай выпрацоўкі.**

а) Чаравікі жаночыя, чорныя, хромавыя 26 см. асарт. 78 (цана Белскуртрэсту) 9 р. 80 к. за пару

Чаравікі жаночыя, чорныя, хромавыя 26 см. асарт. 77 (цана Бельскуртрэсту) 8 „ 80 „ „ „

б) Чаравікі дзіцячыя да № 25 чорныя, хромавыя цэльны бэрц ці цэльнае аблажэньне. . . . . . . 6 „ 95 „ „ „

в) Таксама з адразной саюзкай . . 6 „ 55 „ „ „

г) На іншыя віды чорнага, хромавага, мэханічнага абутку (мужчынск. і дзіцячыя) усіх асартымэнтаў, а таксама на парусінавыя—устанаўляюцца прэйскур. цэны НК Гандлю СССР.

*Увага.* На дзіцячы абутак шыта-біты цана адпаведна павышаецца на 25 к. за пару.

**Абутак шпількавы (ручная работа).**

а) Чаравікі мужчынскія, чорныя, хромавага апойку на драўляных шпільках, цэльны бэрц ці цэльнае аблажэньне, палатняная падкладка, фальш. рант, на шнурках . . . . 10 р. 60 к. за пару

б) Чаравікі жаночыя чорныя, хромавага апойку, 25—26 см., цэльны бэрц, ці цэльнае аблажэньне, палатняная падкладка, фальшывы рант, на скураным абсацы . . . . . 10 „ 40 „ „ „

*Увага.* Чаравікі жаночыя на драўляным абсацы павышаюцца ў цане на 35 к. за пару.

II. Для тых прадпрыемстваў мясц. прамысловасьці, у прыватнасьці, для Віцебскай ф-кі „Самаход“, якія прадавалі раней некаторыя сарты мэханічнага і шпількавага абутку па цэнах ніжэй цэн, устаноўленых гэтай пастановай, застаюцца ў сіле ранейшыя цэны; павышэньне цэн супроць раней існаваўшых не дапушчаецца.

III. На абутак з каляровага хрому ўсіх сартоў як мэханічны, так і шпількавы цана адпаведна павышаецца толькі ў разьмеры розьніцы

паміж каштоўнасьцю чорнага і каляровага хрому па цэнах НК Гандлю СССР.

IV. З установленых п. I гэтай пастановы адпускных цэн на абутак—па дагаворах, заключаных з БКС на 1928/29 г., робіцца скідка ў разьмеры 0,5%.

V. Установленыя гэтай пастановай цэны ўваходзяць у сілу з 1/IV-1929 г.

VI. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы падлягаюць адказнасьці паводле арт. 202 К. К. БССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НК Гандлю БССР *Паплаўскі.*

30 сакавіка 1929 г.
№ 18.

---

## 26. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра падачу ў Нар. Кам. Працы і яго мясцовыя органы справаздачы аб стане броні-падлеткаў у вытворчых прадпрыемствах на 1-ае мая 1929 г.**

*Усім прамысловым трэстам і вытворчым прадпрыемствам, не ўваходзячым у склад трэстаў БССР.*

1. На падставе пастановы Нар. Кам. Працы СССР за 11 сакавіка 1929 г. № 111 (Изв. НКТ СССР № 14 за 1929 г.) усе прамысловыя трэсты, а таксама тыя вытворчыя прадпрыемствы, якія не ўваходзяць у склад трэстаў і абавязаны падаваць статыстычныя карткі па працы па формах ЦСК №№ 1 і 2, павінны падаць у органы Нар. Кам. Працы аднаразовыя справаздачы аб стане броні-падлеткаў на 1-е мая 1929 г., па паказанай у дадатку форме.

2. Справаздачы падаюцца з захаваньнем правіл запаўненьня належных граф, паказаных у Інструкцыі па запаўненьню гадовай справаздачы аб стане броні-падлеткаў, што падаецца по форме „0“, дадатак да пастановы НКП СССР за 11-III—1929 г. № 110 (Изв. НКТ СССР № 14 за 1929 г., ст. 215).

3. Трэсты і прадпрыемствы (п. 1) падаюць справаздачу ў наступным парадку:

а) трэсты і прадпрыемствы Рэспубліканскага значэньня—у Нар. Кам. Працы БССР не пазьней 1-га чэрвеня 1929 г.,

б) трэсты і прадпрыемствы мясцовага значэньня — у акруговыя інспэкцыі працы—не пазьней 20-га мая 1929 г.

4. Інспэкцыі працы падаюць атрыманыя імі зьвесткі па форме № 0—1 у Нар. Кам. Працы БССР не пазьней 15-га чэрвеня 1929 году. Зводкі па мясцовай прамысловасьці складаюцца па гэтай-жа форме.

*Дадатак.* Форма справаздачы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Я. Мяркулаў.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньні рынку працы БССР *С. Мышалаў.*

30 красавіка 1929 г.
№ 32.

*Дадатак.*

Форма 0—1.

# СПРАВАЗДАЧА

Аб стане броні-падлеткаў на 1 мая 1929 г. (назва трэсту ці паасобнага прадпрыемства).

Адрэс трэсту ці прадпрыемства . . . . . . . . . . . . . .

Галоўныя прадметы вырабу . . . . . . . . . . . . . . . . .

| Вытворчае прадпрыемства | Галоўн. вытворч. прадпрыемства | Сьпісачны лік рабоч. (без часовых і сэзонных) | Састаіць у броні | | З агульн. ліку саст. у броні 18 г. і старэй. | | | З агульн. ліку падлеткаў навучаецца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Усяго | У тым ліку | Усяго | У тым ліку: У школ. ФЗУ | У тым ліку: Па асобна цяжк. і школьн. работах шк. ФЗУ | У школах ФЗУ | У брыгадн. вучнёўстве | У індывід. вучнёўстве |
| 1. | 2. | 3. | 4. | 5. | 6. | 7. | 8. | 9. | 10. | 11. |
| I. Сталыя работы | | | | | | | | | | |
| 1. . . . . | | | | | | | | | | |
| 2. . . . . | | | | | | | | | | |
| 3. . . . . | | | | | | | | | | |
| 4. . . . . | | | | | | | | | | |
| Разам . . . | | | | | | | | | | |
| У тым ліку па вытворчасьцях: | | | | | | | | | | |
| 1. . . . . | | | | | | | | | | |
| 2. . . . . | | | | | | | | | | |
| 3. . . . . | | | | | | | | | | |
| II. Сэзонныя работы *) | | | | | | | | | | |
| 1. . . . . | | | | | | | | | | |
| 2. . . . . | | | | | | | | | | |
| 3. . . . . | | | | | | | | | | |

*) Паказваецца сярэдні гадовы лік рабочых, паводле інструкцыі па запаўненьню гэтае справаздачы.

Адказны Рэдактар . Фрыдман.